ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛіМ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

21 СТУДЗЕНЯ 1994 Г. № 3 (3725) КОШТ 30 РУБ.

## БЕЛАРУСЬ ВІТАЛА КЛІНТАНА



3

## УСЁ ГЛЫБЕЙ У ГРАЗЬ...

**Уладзімір КАЗБЯРУК:** ***«Нязведаныя ўсё ж такі шляхі гасподнія. А законы і зігзагі гісторыі надта ж дзіўныя. Але атрымліваецца так, што злачынства рана ці позна належным чынам ацэньваецца. Сёння, у 70-ю гадавіну з дня смерці Леніна, мы не можам забыць, што ён з'яўляецца галоўным віноўнікам крывавай братазабойчай грамадзянскай вайны, якая агнём прайшлася па ўсёй краіне, зламала і пакалечыла лёс мільёнаў і мільёнаў людзей».***

5, 12

## ПРА ДУБОЎКУ

**Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ:** ***«Я люблю часам спыніцца перад сваімі зашклёнымі паліцамі, абвесці іх вачыма, узяць адну з кніг, што найбольш уразіла твой зрок, і правесці гадзінку, другую з ёю сам-насам. А калі пра творцу гэтага сховішча ты яшчэ ведаеш добрае што-небудзь, або знаў яго асабіста, тады і вобраз яго паўстане перад табою».***

14, 15



## КАЛІ СТВОРАНА ЛЕПШАЯ ПЕСНЯ...

Ніхто не раскажа пра кампазітара лепей, чым ягоная музыка.

Нішто не скажа пра кампазітара Алоўнікава больш, чым песня «Радзіма, мая дарагая».

Ні ў якім разе гэта не значыць, што творчы лёс Уладзіміра Уладзіміравіча Алоўнікава наканаваў яму стаць Аўтарам Адной Песні. Песні геніяльнай. Геніяльнай — гэта значыць, што ў ёй сканцэнтраваўся творчы геній і генетычная духоўнасць народа.

Не-не, у кампазітара ёсць цудоўныя сімфанічныя паэмы: «Партызанская быль», «Нарач». Ёсць нямала выдатных песень, якія — быў час! — падхопліваў народ, мелодыі якіх і сёння зачароўваюць шчырасцю і талентам іхняга аўтара. «Лясная песня», «На Палессі гоман, гоман», «Дзесьці ў пасёлку», «Песня пра Мінск», цыкл, прысвечаны героям Вялікай Айчыннай...

Моладзь схіляе галаву перад цяжкім жыццёвым вопытам кампазітара-франтавіка. Маладзейшыя калегі захоплена абмяркоўваюць досведы прафесара Алоўнікава ў галіне тэорыі музыкі, шануюць яго як бліскучага знаўцу поліфаніі, гармоніі...

Уладзіміру Уладзіміравічу Алоўнікаву — 75. У гэтую знамянальную для яго часіну не будзем гадаць, якія шанцы ў мелодыі «Радзіма, мая дарагая» прэтэндаваць на ролю нашага Дзяржаўнага гімна. Тым больш, што яна — воля кампазітара — і не прэтэндуе. Аднак жа не будзем забывацца, што «звычайная лірычная», цудоўная песня У. Алоўнікава даўно і без усялякіх прэтэнзій проста ўвайшла і ў сэрцы, і ў свядомасць нашу, для некалькіх пакаленняў зрабіўшыся музычным сімвалам Беларусі. Гэта — безумоўна. Таму, згадваючы сёння пра юбілей мудрага аксакала беларускай музыкі, мы не памылімся, калі назавём яго стваральнікам адной з лепшых песень нашага краю.

С. Б.

*Народнага артыста Беларусі, сталага нашага чытача і падпісчыка Уладзіміра Уладзіміравіча АЛОЎНІКАВА, якога лімаўцы віншуюць з юбілеем, сфатаграфаваў В. СТРАЛКОЎСКІ*

# ЛІТ КОЛА ДЗЁН

***Візіт прэзідэнта ЗША Біла Клінтана ў Мінск, як бы ні спрабавалі прынізіць яго значэнне імперскія сілы ў замежжы і іхняя мясцовая крэатура, стаў падзеяй. Захад зноў нагадаў нам тое, што ўсяляк спрабуюць выкрасліць са свядомасці беларуса шматлікія «дабрадзеі»: тое, што Беларусь — незалежная дзяржава.***

***Перад візітам прэзідэнта Мінск падчысцілі ад крымінальных элементаў; з будынка Міністэрства замежных спраў выселілі бальшавіцкую газету «Мы и время», якая абаснавалася там яшчэ, калі будынак быў райкомаўскім.***

***Магчыма, цяпер будзе пастаянны міліцэйскі пост у Курапатах /а, значыць, нарэшце ў святым месцы перастануць ладзіць пікнікі і раскопваць магілы, шукаючы каштоўнасці/, бо Біл Клінтан пакінуў тут памятны знак — а яго трэба ахоўваць.***

***Скончыліся парламенцкія канікулы. Пасля абаяльнай усмешкі Клінтана зноў бачым Лукашэнку, і не яго аднаго...***

## ЗАПЫТ ТЫДНЯ

Беларускае згуртаванне вайскоўцаў звярнулася да В. Кебіча з пісьмовым запытам. У ім выказана заклапочанасць становішчам беларусаў на беларускіх этнічных землях, што зараз знаходзяцца пад юрысдыкцыяй Жамойцкай Рэспублікі. Актывісты беларускіх нацыянальна-культурных арганізацый падвяргаюцца нападкам, беларускія арганізацыі пазбаўлены ўладамі Жамойці будынкаў, якія належалі ім спрадвеку. Створаны штучныя цяжкасці для наведання беларусамі сваёй старажытнай сталіцы — Вільні. БЗВ пытаецца, ці сапраўды прэм'ер падарыў Жамойці частку беларускай тэрыторыі — станцыю Гадуцішкі.

Малаверагодна, што вайскоўцы-патрыёты дачакаюцца адказу. Але адсутнасць адказу — таксама адказ.

## ПРАЦЭС ТЫДНЯ

У Савецкім народным судзе г. Мінска прайшло першае пасяджэнне па іску БНФ да Савета Міністраў Беларусі, газеты «Советская Белоруссия» і яе аглядальніка Л. Маслюковай аб абароне гонару і годнасці. Падставай для іску стаў зварот Саўміна да грамадзян Беларусі і каментарыі да яго ў «Советской Белоруссии», дзе БНФ абвінавачваўся ў правакацыйным нагнятанні напружанасці.

Пасяджэнне цягнулася ўсяго дзесяць хвілін. Прадстаўнікі ўрада заявілі ў судзе, што Саўмін не з'яўляецца юрыдычнай асобай.

«Калі выступаць па тэлебачанні ці ў прэсе з фальшывымі правакацыйнымі заявамі, то яны — юрыдычная асоба і падпісваюцца «Савет Міністраў», а калі адказваць за гэта ў судзе, тады яны — неюрыдычная асоба. У такім разе мы паставім пытанне аб тым, каб запрасілі ў суд усіх міністраў», — пракаментаваў сітуацыю Зянон Пазняк.

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Вялікі грамадскі рэзананс мела публікацыя З. Пазняка «О русском империализме и его опасности» /«Народная газета», 15—17 студзеня/. Сэнс артыкула вынікае з самой назвы. На вялікім гістарычным матэрыяле, дапоўненым аналізам сённяшніх падзей, аўтар робіць высновы аб небяспечнасці нават фармальных саюзаў з Расіяй.

У артыкуле пералічаны першачарговыя крокі ўрада, які сфармуе Беларускі народны фронт пасля таго, як ён прыйдзе да ўлады, — у чым З. Пазняк перакананы.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«На такіх крутых паваротах свайго гістарычнага шляху народ, безумоўна, павінен быць пільным і актыўным, адказным як перад сваімі былымі, так і будучымі пакаленнямі. Калі ж ён, у сваёй пераважнай большасці, насуперак усяму працягвае весці сябе пасіўна, не звяртаючы належнай увагі на тую грозную небяспеку, якая з кожным часам няўхільна ўсё больш і больш засцілае сваім чорным крылом нябесны гарызонт, то яго павінны як мага хутчэй абудзіць тыя яго лепшыя прадстаўнікі, якія добра разумеюць увесь трагізм сучаснай гістарычнай сітуацыі.

Аднак, з другога боку, вельмі непажадана, каб абуджэнне народа вылілася ў народны бунт, у нешта накшталт такога, што ўжо было на нашай зямлі на пачатку дваццатага стагоддзя. Як гаворыцца, толькі гэтага нам і не хапала для «поўнага шчасця». */Генадзь Лыч. «Небяспечныя гульні» з нацыянальнай валютай». «Народная газета», 19 студзеня/.*

## СЮРПРЫЗ ТЫДНЯ

З 20 студзеня праезд у сталічным транспарце каштуе 100 рублёў. Адпаведна падскочыў і кошт месячных праязных білетаў.

## ПРАВАКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Нацыянальны алімпійскі камітэт Беларусі атрымаў ад Аргкамітэта зімовай Алімпіяды ў Лілехамеры факс, у якім паведамляецца, што семнаццаць спартсменаў з нашай алімпійскай зборнай не могуць быць акрэдытаваны на Гульнях, бо адсутнічаюць звесткі аб іх грамадзянстве. Беларускі НАК у адказ пацвердзіў грамадзянства названых спартсменаў. Такім чынам, інцыдэнт можна лічыць вычарпаным.

Аднак складваецца ўражанне, што некага з нашых будучых сапернікаў напалохалі перадалімпійскія поспехі спартсменаў Беларусі, і вось такім неспартыўным чынам іх збіраліся вывесці з гульні.

Гэта правакацыя сведчыць аб высокім прэстыжы беларускага спорту. Нас баяцца?

## АБМЕЖАВАННЕ ТЫДНЯ

З 16 студзеня дзейнічае рашэнне ўлад сталічнай вобласці «Аб увядзенні у гарадах і раёнах Мінскай вобласці рэгістрацыі грамадзян, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь у межах былога СССР, альбо не маюць пастаяннага месца жыхарства». Цяпер пэўным катэгорыям за шчасце наведаць Мінск і ваколіцы давядзецца плаціць. Нагадаем, што раней падобнае рашэнне прынялі ўлады Масквы.

## ІНЦЫДЭНТ ТЫДНЯ

У Мінску жамойцкімі спецслужбамі былі арыштаваны і дастаўлены ў Жамойць функцыянеры жамойцкай кампартыі Буракявічус і Ермалавічус, якія абвінавачваюцца ўладамі суседняй краіны ў антыдзяржаўнай дзейнасці. У сувязі з гэтым інцыдэнтам паўстае шэраг пытанняў міжнародна-прававога характару. У сераду сітуацыя абмяркоўвалася на закрытым пасяджэнні Вярхоўнага Савета Беларусі.

## ЗАЯВА ТЫДНЯ

Пасля таго, як расійскі віцэ-прэм'ер Я. Гайдар падаў у адстаўку, назваўшы адной з прычын нязгоду з «аб'яднаннем» грашовых сістэм Расіі і Беларусі, і падзей, што мелі месца потым, Міністэрства замежных спраў Расійскай Федэрацыі зрабіла заяву. Яно выказвае занепакоенасць, што «пытанні адносін Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь сталі прадметам абмяркавання ў сродках масавай інфармацыі дзвюх краін ва ўвязцы з перспектывамі эканамічных рэформ у Расіі». З заявы вынікае, што ўнутрырасійскія праблемы не павінны ставіць пад сумненне «далейшае збліжэнне нашых дзвюх краін», і што маючае адбыцца «аб'яднанне» грашовых сістэм будзе збліжэнню спрыяць.

# БУДУЧЫНЯ — ЗА ІМІ

## 5-Ы З'ЕЗД ФЕРМЕРАЎ БЕЛАРУСІ

Калі даведаўся, што з'езд гэты адбудзецца ў памяшканні тэатра імя Янкі Купалы, прызнацца, варухнулася думка: з размахам дзейнічае Саюз фермераў; колькі тых дэлегатаў яшчэ збярэцца, а, бач ты, заарандавалі якую будыніну! Мабыць, для прэстыжу...

Я памыліўся. Прыйшоўшы на з'езд задоўга да пачатку, у партэр я ўжо не трапіў, ды і на балконе ледзь знайшоў сабе месца.

Потым даведаўся: каля 300 дэлегатаў ад фермерскіх гаспадарак рэспублікі прыехалі ў Мінск, каб пагаварыць пра свае справы. Адразу кінулася ў вочы, што сярод прысутных многа маладых твараў. Менавіта гэтую акалічнасць меў на ўвазе Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, калі ў кароткім прывітальным слове, адрасаваным з'езду, сказаў, што сам факт удзелу ў фермерскім руху вялікай колькасці моладзі сведчыць аб яго перспектыўнасці, аб тым, што за ім будучыня.

Мо і так. А пакуль што... Гаворка на з'ездзе паказала, што фермерства на Беларусі развіваецца марудна. Асабліва замарудзіўся рост фермерскіх гаспадарак, як адзначыў у сваім дакладзе старшыня Беларускага саюза фермераў К. Ярмоленка, летась. Цяпер у рэспубліцы ўсяго 2652 фермерскія гаспадаркі, за якімі замацавана 55 тысяч гектараў зямлі. Сярэдні фермерскі надзел складае 20-22 гектары, у той час як у Расіі — 40-42 гектары.

Ды і зямля, якую выдзяляюць фермерам калгасы і саўгасы, — амаль скрозь няўдобіца, непрыдатная для таварнай вытворчасці сельгаспрадукцыі. І гэта ў той час, калі сотні і сотні гектараў калгаснай і саўгаснай зямлі з году ў год зарастаюць пустазеллем і хмызняком.

Адзін з прамоўцаў на з'ездзе прывёў цікавыя лічбы. За 65 гадоў панавання калгаснага ладу колькасць гумусу ў глебе зменшылася ў два з паловай разы, у той час, як у заходніх краінах, дзе аграрны сектар знаходзіцца ў прыватных руках, утрыманне гумусу, наадварот, удвая павялічылася. Але нашы «чырвоныя памешчыкі» дзейнічаюць па прынцыпе — «сам не гам і іншаму не дам».

Шмат гаварылася на з'ездзе аб негатыўным стаўленні да фермерства мясцовых органаў улады, для якіх не пісаны ніякія законы, у тым ліку і законы аб зямлі, аб прыватнай уласнасці на яе, якія, фактычна, застаюцца на паперы. Многія прамоўцы ўзнімалі пытанне і аб хібах у крэдытнай і падаткавай сістэмах, што не дае фермерам як след разгарнуцца, паказаць, на што яны здольныя.

Невыпадкова гаварылі дэлегаты з'езда і пра інфармацыйны вакуум, які склаўся вакол фермерскага руху. Многія газеты, а найперш «Беларуская ніва» не ўпускаюць выпадку, каб дыскрэдытаваць фермераў, паказаць іх у непрывабным святле. Вось чаму на з'ездзе была выказана аднадушная падтрымка газеце «Новая зямля», якая пачала выходзіць з новага года пад эгідай Беларускага саюза фермераў.

І яшчэ адно. Шмат чакалі дэлегаты з'езда ад выступлення на ім старшыні аграрнай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі У. Гаркуна, але яно, на жаль, расчаравала. Фактычна ён праігнараваў большасць узнятых у спрэчках пытанняў, абмежаваўшыся агульнымі развагамі аб цяжкасцях, якія перажывае зараз сельская гаспадарка рэспублікі.

Помніцца, на адным з пасяджэнняў бягучай сесіі Вярхоўнага Савета старшыня Дзяржэканомплана рэспублікі С. Лінг з гонарам гаварыў аб дзесятках мільярдаў рублёў, укладзеных апошнім часам у сельскую гаспадарку Беларусі. А колькі мільярдаў уклалі раней? А вынік — той жа. Бо колькі ў дзіравы мех ні сып...

Як гаварылася на з'ездзе, з тых мільярдаў фермерам амаль нічагусенькі не перапала. Аднак будучыня ўсё ж за імі.

**М. ЗАМСКІ**

Памяркуем

# А ВЫЙСЦЕ ПРОСТАЕ...

*«... аб гэтым вось і молімся, аб вашай дасканаласці».*
*Другое пасланне Паўла да карынфян.*

Мяне бясконца ўражвае мудрая разважлівасць хрысціянства, якое ад гвалтоўнага знішчэння паганскіх ідалаў перайшло да спалучэння ўласна-хрысціянскіх і старажытных дахрысціянскіх свят. Што з гэтага атрымалася, усім вядома. Супалі па часе і дзіўна перапляліся Купалле і дзень Івана Купалы /Іаана Хрысціцеля/, Каляды і дзень народзін Хрыста, Грамніцы і Стрэчанне, Гуканне вясны і Дабравешчанне. Замест Перуна на вогненнай калясніцы едзе Ілля, Ярылу выцесніў Юр'я. Прычым у нас, беларусаў, абрады ў асноўным засталіся язычніцкімі, што абумоўлена архаікай і трываласцю народнага светапогляду, і толькі царкоўны каляндар ды рэдкія ўкрапленні хрысціянскай сімволікі напамінаюць пра тое, што нам належыць адзначаць і каму пакланяцца.

У дзяцінстве мне выпала колькі разоў разам са старэйшымі каледаваць. Памятаю атмасферу супольнай узбуджанасці, уздыму. І — адчуванне ўдзелу ў нечым забароненым: зносілі і хавалі брамкі, затыкалі коміны /ці шкло на іх клалі/, чарнілам вылівалі на снезе сцежкі паміж патайнымі вясковымі парамі, уцякалі ад раззлаваных гаспадароў. Запомніўся і гурт калядоўшчыкаў з казой — больш ранні па часе ўспамін. Але што адметна: імені Хрыста пры гэтым у памяці не адклалася. Працяглыя калядныя святы існавалі як бы самі па сабе, безадносна да асобы, жыцця і пакутнай смерці Сына Божага. А паколькі ні ў вёсцы, ні ў ваколіцах не было тады дзеючай царквы, дык і не дзіўна, што доўгі час у маёй свядомасці Каляды і Народзіны Хрыстовы ніяк не маглі спалучыцца. Іх ідэнтычнасць я зразумела ўжо сталым чалавекам.

Прыватны выпадак? Як сказаць... Усе калядныя рытуалы — агляд гаспадаркі, упрыгожванне снапа, абход хаты з куццёю, сама каза як увасабленне пладавітасці, а тым больш магія варажбы — усё гэта вельмі далёка ад духу і сутнасці хрысціянскага вучэння. Не выключана, што перавазе язычніцкага элементу спрыяў занязпад праваслаўнай царквы пры Саветах. У заходняй частцы Беларусі, дзе панавала каталіцтва і праз яго адбывалася повязь з Еўропай, людзі ўсё ж не выпускалі з-пад увагі асноўны сэнс святкавання, тую падзею, якая хоць і паўстае ў стракатай аблямоўцы паганскай абраднасці, але затое нясе новы змест.

Новае віно наліта ў старыя мяхі? Аднак не пракісла, не. Проста там-сям выцекла, сышло ў пясок.

Задумаемся і вось пра што: дасюль у беларускай літаратурнай мове няма вартага адпаведніка слову «Рождество».

**Нараджэнне**? Груваткая і будзённа.

**Раство**? Форма ўсечаная, зварадлівая /як «Сретенье» ў рускіх/.

Якіх толькі эксперыментаў не знойдзеш сёння ў газетах: **Ражаство, Ражство,** нават **Раждажство** — і ўсё міма, марныя спробы наблізіцца да ідэалу, бо за аснову бярэцца царкоўнаславянскі назоў.

Можа, усё-такі **Народзіны**?

Пра даўнюю драму нашага народа — падзел на дзве канфесіі — нямала сказана сучаснымі носьбітамі нацыянальнай ідэі. Выйсцем са становішча некаторыя лічаць яшчэ і адраджэнне трэцяй — уніяцкай веры, што недарэчна нават з пункту гледжання логікі. У трох верах будзе зусім як у трох соснах. Пры гэтым уніяцкая /адзін з нашых аўтараў слушна назваў яе гібрыдам/, вакол якой прапаноўваюць аб'яднацца, яшчэ мусіць паўстаць з попелу — што, мяркуючы па ўсім, малаверагодна. Дык навошта гнацца за прывіднай птушкай? Каб дарма патраціць час і намаганні, упусціць гістарычны шанц?

Ратункам, натуральна, была б аўтакефалія. Беларускія Бібліі мы маем дома толькі дзякуючы выдавецкай дзейнасці незалежнай праваслаўнай царквы Канады і іншых краін. /Айчынныя адно рыхтуюцца да друку/. Без незалежнай царквы не выжыла б беларускасць на эміграцыі — у адзін голас сцвярджаюць суайчыннікі. Але сёння і аўтакефалія з'яўляецца для нас нечым з разраду нязбытнай мары або утопіі, і заклікаць да яе ўсур'ёз можна толькі зусім ужо страціўшы грунт рэальнасці.

Дзе ж выйсце?

Яно, на мой погляд, простае і цалкам у межах здаровага сэнсу. Трэба адкрыць пры універсітэтах багаслоўскія факультэты, дзе б рыхтаваліся нацыянальныя кадры як для каталіцкай, так і для праваслаўнай царквы. І тады каталіцтва з праваслаўем перастануць раздзіраць Беларусь, а будуць родным словам і малітвай спрыяць яе з'яднанню. Для гэтага патрабуецца, вядома ж, пастанова Рэспублікі Беларусь. Ах, царква ў нас аддзелена ад дзяржавы... Дзякую за напамін. Але ж не дзяржава ад царквы. Гэта права і прэрагатыва кожнай канкрэтнай улады — вырашаць, што мэтазгодна, а што не ў дадзены гістарычны момант. А тое, што служыла б умацаванню адзінства, развіццю самасвядомасці народа, яго духоўнаму прагрэсу — угодна і Богу...

І апошні штрых, які становіцца ў маёй аўтарскай рубрыцы ледзь не традыцыйным: першчым сваімі стануць бацюшкі і ксяндзы, нам неабходна займець сваю, беларускую ўладу. Нам? Сваю? Займець? Ох, нялёгкая гэта работа...

**Г. К.**

# БЕЛАРУСЬ ВІТАЛА КЛІНТАНА







З нагоды візіту Біла Клінтана ў Беларусь некаторыя нашыя сродкі масавай інфармацыі згадалі, што гэта не першы прыезд да нас прэзідэнта ЗША. Першы адбыўся ў ліпені 1974 года, калі ў Мінск прыязджаў Р. Ніксан. Ад гэтай згадкі стала мне ніякавата — няўжо з таго летняга дня, калі я стаяў у шчыльным натоўпе, што кальцом апаясваў плошчу Перамогі, назіраючы за цырымоніяй ускладання Р. Ніксанам вянка да манумента, сплыло дваццаць гадоў?!

Карціна тая адразу да дробязей усплыла ў памяці /нават такі эпізод: адзін з беларускіх фотакарэспандэнтаў падышоў да прэзідэнта, відаць, недазволена блізка, і быў на вачах ва ўсіх імгненна звалены на зямлю яго целаахоўнікам/, калі цяпер я назіраў за такой жа цырымоніяй, але ўжо з удзелам цяперашняга прэзідэнта ЗША Б. Клінтана. Назіраў і міжволі параўноўваў — той, колішні, нейкі баязліва сцішаны і маўклівы натоўп, і сённяшні — па-святочнаму ўзбуджаны, гаманлівы, з тысячамі працягнутых рук для поціску высокаму госцю. Параўноўваў сутулаватую постаць Ніксана, які, здаецца, не заўважаў нікога вакол сябе, і стройнага, бадзёрага, усмешлівага Клінтана, які, кінуўшы ў жах сваю ахову, пайшоў рукацца з натоўпам.

І, разам з тым, падумалася: справа, відаць, не ў тым, што Р. Ніксан і Б. Клінтан — людзі рознага псіхафізічнага складу і па-рознаму паводзяць сябе ў аднолькавых сітуацыях; справа ў тым, што для Ніксана Беларусь была проста адной з рэспублік Савецкага Саюза, якую ён вырашыў наведаць у рамках візіту ў Маскву, Клінтан жа нанёс афіцыйны візіт дружалюбнай краіне, з якой Злучаныя Штаты Амерыкі падтрымліваюць трывалыя дыпламатычныя зносіны і якая, атрымаўшы незалежнасць, ад самага пачатку дэкларавала сябе, як суверэнная, нейтральная і бяз'ядзерная дзяржава.

Што і казаць, не кожная з краін, якая так або інакш аказалася ўладальніцай ядзернай зброі, змагла б пераадолець спакусу пакарыстацца гэтай акалічнасцю ў сваіх эгаістычных мэтах /не будзем паказваць пальцам на сяго-таго са сваіх суседзяў/, хай і насуперак міжнародным пагадненням аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі. Рэспубліка Беларусь павяла сябе ў гэтай сітуацыі цывілізавана і карэктна, не запляміўшы нічым сябе перад міжнароднай супольнасцю. І, разам з тым, думаецца, нікога ў свеце не шакіравала і імкненне Беларусі атрымаць сваю долю сродкаў з кошту расчапляемых матэрыялаў з ядзерных ракет, дыслацыраваных на яе тэрыторыі. Як мы ведаем, кіраўнікі Расіі і ЗША палічылі такую кампенсацыю зусім законнай.

Паміж дэлегацыямі Рэспублікі Беларусь і Злучаных Штатаў Амерыкі ў Мінску быў падпісаны шэраг пагадненняў, якія яшчэ больш умацоўваюць нашы двухбаковыя сувязі. Сярод іх — дагавор аб абароне інвестыцый, дамоўленасці аб навуцы і тэхніцы, стварэнні двухбаковага камітэта па развіцці бізнесу, Амерыканскага бізнес-цэнтра і рэгіянальнага фонду прадпрымальніцтва.

Усё гэта, вядома, радуе. Але было б вельмі наіўным лічыць, што зараз, пасля візіту Б. Клінтана, нам стане намнога лягчэй у вырашэнні складанейшых праблем, якія стаяць перад рэспублікай. Усё залежыць ад нас саміх — нашай волі, нашай рашучасці ісці па шляху рынкавых рэформ, па шляху дэмакратычных пераўтварэнняў. Самае большае, што нам можа падарыць «амерыканскі дзядуля», — гэта вуду. А лавіць рыбку давядзецца самім.

**М. ЗАМСКІ**





# ЗАКАЗАНА І ЗАПЛАНАВАНА?

Пра візіт у нашу краіну прэзідэнта ЗША маскоўскі тэлекаментатар паведаміў коратка: «Біл Клінтан праездам наведаў Мінск». Адчуваеце розніцу паміж паняццем «афіцыйны візіт» і «праездам»? А паколькі меркаванні Масквы для ўрада Беларусі /і ўрадавых сродкаў масавай інфармацыі/ — ісціна ў апошняй інстанцыі, дык Беларускае тэлебачанне і зрабіла ўсё магчымае, каб прынізіць маштаб падзеі, каб, не дай Бог, беларусы не пачалі сябе паважаць і гэтым самым абражаць расійцаў.

Візіт асвятляўся выключна няздарна. Прычым няздарнасць гэтая была заказана і запланавана. Нейкія фрагменты замест разгорнутых рэпартажаў; трансляцыя насуперак логіцы абрывалася ў той момант, калі павінна было пачацца самае цікавае. Складвалася ўражанне, што ўлады былі напалоханы тым цёплым прыёмам, які аказалі прэзідэнту ЗША людзі Беларусі, і прыкладалі ўсе намаганні, каб замаўчаць гэты відавочны факт.

Візіт Біла Клінтана наогул ніяк не ўпісваецца ў палітыку сённяшняга ўрада Беларусі. Бо кантакты на вышэйшым узроўні нашай краіны з самай моцнай, самай уплывовай дзяржавай свету ўмацоўваюць суверэнітэт Беларусі, яе міжнародны прэстыж. І галоўнае, усіх, нават тых, хто думаць сваім розумам развучыўся альбо ніколі не ўмеў, — падводзіць да думкі, што кірунак на ўсход, у кангламерат расійскіх губерняў — далёка не адзіна магчымы шлях для Беларусі. Ёсць заходняя альтэрнатыва. Лепей арыентавацца на еўрапейскія /амерыканскія/ грамадска-палітычныя стандарты, на той узровень вытворчасці, жыцця, дэмакратыі.

Такія ідэі ўяўляюць небяспеку для ўрадавага чыноўніка, якому безамбітнай краінай са «сціплым» народам працей кіраваць.

У час, калі прэзідэнт ЗША ускладаў вянок да абеліска на плошчы Перамогі, карэспандэнт тэлебачання браў інтэрв'ю ў В. Кебіча. Ведаючы, як любіць наш прэм'ер іграць на палітычных імпрэзах ролю імянінніка, гаспадара свята і першай асобы дзяржавы, няцяжка зразумець, як няўтульна было яму ў цені прэзідэнта. Спадар Кебіч выглядаў так, нібыта ўчора позна лёг, а сёння рана ўстаў, і ніяк не можа дачакацца, калі ўсё гэта скончыцца, калі нарэшце прэзідэнцкі «Боінг» адарвецца ад мінскай глебы і возьме курс на Жэневу. Ягоная раздражнёнасць выявілася ў інтэрв'ю. Усё, што Шушкевіч абмяркоўвае з Клінтанам, я даўно вырашыў з Чарнамырдзіным. Чарнамырдзін не супраць — вось асноўны змест ягонай гаворкі.

У часе візіту былі падпісаны беларуска-амерыканскія дакументы, скіраваныя на перспектыву. Хутчэй за ўсё рэалізуе іх ужо іншы ўрад і новы парламент. А сваё стаўленне да гэтага ўрада і гэтага Вярхоўнага Савета прэзідэнт Клінтан выказаў хоць і дыпламатычна, але вельмі акрэслена. Ён спадзяецца, што ў сакавіку адбудуцца датэрміновыя выбары ў вышэйшы заканадаўчы орган Беларусі /а той, адпаведна, сфармуе новы ўрад/.

Праграмай візіту было прадугледжана наведванне Курапатаў. Ушаноўваючы памяць бязвінных ахвяр, Біл Клінтан кіраваўся нармальнымі чалавечымі пачуццямі. Але ж гэтая акцыя мела і іншы аспект — як дэманстрацыя пэўных палітычных сімпатый. Як маральная падтрымка Беларускага народнага фронту і ягонага лідэра Зянона Пазняка.

Добра, бадай, і тое, што гэтая памінальная акцыя адбылася на заканчэнне візіту. Атрымалася больш эмацыянальна, больш нязмушана. Скончыліся палітычныя справы і настаў час падумаць аб вечным каля Крыжа пакут, сярод безыменных магіл.

Многія, відаць, запомняць гэты кадр тэлерэпартажу, прыцемкі, па Курапацкай дарозе ідуць Шушкевіч, Клінтан, Пазняк — спікер парламента Беларусі, прэзідэнт ЗША, лідэр Народнага фронту. Гучыць «Магутны Божа»...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ЗДАЕЦЦА, ГІМН БУДЗЕ!

**Праўда, пакуль што не новы Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, якога мы даўно зачакаліся, а Гімн фермераў. Прынамсі, захады, каб ён з'явіўся, прымае штотыднёвік Беларускага Саюза фермераў «Новая зямля», першы нумар якога з'явіўся ў кіёсках. У якасці прэтэндэнта прапануецца тэкст, напісаны М. Шынкевічам. Адначасова рэдакцыя «НЗ» аб'яўляе конкурс на літаратурны тэкст будучага гімна беларускіх фермераў.**

**Што тычыцца матэрыялаў «НЗ», дык яны вытрыманы ў тым жа духу, як і ў пробным нумары, які, як вядома, з'явіўся яшчэ летась: у меру сенсацыйна, належным чынам сур'ёзна, а галоўнае — на высокім журналісцкім узроўні.**

**А. М.**

# «СВІТАНКУ» — 5 ГАДОЎ






Кастусь Езавітаў
Слаўны дзеяч беларускага Адраджэньня ў Латвіі

**Саюз пісьменнікаў Латвіі паспрыяў беларускаму культурна-асветнаму таварыству «Світанак» адзначыць сваё першае 5-годдзе. У шыкоўных памяшканнях былога палаца Беньяміна заадно прайшло і ўшанаванне 100-годдзя з дня нараджэння выдатнага дзеяча БНР, дыпламата, педагога, вучонага і паэта Кастуся Езавітава, большая частка жыцця якога прайшла ў Латвіі.**

**Сябры «Світанка» атрымалі віншаванні ад Сойма Латвійскай Рэспублікі, пасла Рэспублікі Беларусь сп. В. Вялічкі, Саюза пісьменнікаў Беларусі, Скарынаўскага цэнтра, ТБМ імя Ф. Скарыны, рэдакцый «Роднага слова», «Культуры»... Цёплае слова з пажаданнямі прадаўжаць райнісаўскія традыцыі добрасуседства і ўзаемаразумення, культурнага збліжэння сказаў старшыня рады Саюза пісьменнікаў Латвіі сп. Віктар Аватыньш.**

**У музычнай частцы вечара прынялі ўдзел госці з Мінска Кася Камоцкая і Уладзімір Буднік.**

**С. ПАНІЗНІК**

*«Кастусь Езавітаў». Паштоўка Вячкі Целеша, выдадзеная «Світанкам».*

# АБ ПОМНІКАХ БАРОКА

**Сярод помнікаў даўніны на Беларусі вызначаюцца і тыя, што адносяцца да так званага перыяду Барока. Гэта — Палацава-паркавы комплекс у Нясвіжы, Сафійскі сабор у Полацку, Варвараўская і Ільінская цэрквы ў Віцебску, Мікалаеўская царква ў Магілёве. Яны будуць прадстаўлены на старонках пяцітомнага «Атласа Сусветнага Барока», які прадугледжваецца падрыхтаваць і выдаць у рамках Праграмы «10-годдзе сусветнага развіцця культуры», што прадоўжыцца да 1997 года.**

**Увогуле, гэты унікальны даведнік энцыклапедычнага характару дасць вычарпальную інфармацыю пра ўсе помнікі згаданага перыяду /XV—XVI стагоддзі/, захаваныя па сённяшні дзень у свеце. Размешчаны яны на тэрыторыі 49 краін. Беларусь жа — адна з 25 краін Еўропы.**

# СЫРАКОМЛЯ ВЯРТАЕЦЦА...

**Яшчэ адным сведчаннем таго, што мы, нарэшце, пачынаем з павагай ставіцца да нацыянальнай гісторыі, сталася нядаўняя пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб прысваенні Смольгаўскай сярэдняй школе Любанскага раёна імя выдатнага паэта-дэмакрата Уладзіслава Сыракомлі /Людвіка Кандратовіча/.**



З пошты «ЛіМа»

# «БАНАНАВАЯ» РЭСПУБЛІКА?

Хоць фармальна наша краіна стала незалежнай, але да фактычнай незалежнасці яшчэ далёка. Сродкі масавай інфармацыі, а таксама дзяржаўныя асобы называюць нашу краіну рэспублікай, як і ў былыя часы. Незалежна ад формы ўлады краіна павінна называцца краінай. Францыя таксама рэспубліка па форме ўлады, але ўсе называюць яе краінай. А мы ўсяго толькі рэспубліка ў саставе, пэўна, СНД. Іншая справа, што для цяперашніх улад ні назва дзяржавы, ні яе мова, ні многае іншае — не самае галоўнае. Для іх Беларусь па-ранейшаму Северо-Западный край. Ці не таму ў нас дагэтуль няма прыкмет самастойнай дзяржавы: сваіх грошай, уласнай палітыкі: дэмакратычнай канстытуцыі, сваёй царквы, нарэшце і г. д. Малавата ў нас і дэмакратычнай прэсы, а тая, што ёсць, амаль уся рускамоўная, знаходзіцца пад кантролем улад. Па радыё і тэлебачанні амаль усе інтэрв'ю, у тым ліку і з дзяржаўнымі чыноўнікамі, журналісты праводзяць на рускай мове — гэта паказвае адносіны тых і другіх да дзяржаўнай мовы. Пра Беларускае тэлебачанне я сказаў бы, што гэта фактычна трэцяя рускамоўная праграма. Беларуская мова там толькі на застаўках ды ў нешматлікім дыктарскім тэксце. Замежныя фільмы, як і раней, пастаўляюцца да нас цераз Маскву. Навошта тады яны? Іх я магу паглядзець і па расейскіх праграмах. Калі я змагу паглядзець замежную мастацкую стужку на роднай мове?

А, можа, і сапраўды мы яшчэ не «дараслі» да дзяржавы ад ранейшай рэспублікі мадэлі БССР? Хутчэй за ўсё так хочуць тыя, хто робіць дзяржаўную палітыку, каму хочацца, каб наша дзяржава была «бананавай» рэспублікай.

**В. ШАЎРОЎ**

*г. Гродна*

# ЛІДЭРАЎ ТРЭБА ШУКАЦЬ

Двойчы прачытаў карэспандэнцыю «Патрабуюцца лідэры» /«ЛіМ», N 50, 1993 год/. Прачытаў удумліва, з удзячнасцю. Поўнасцю падзяляю выказаныя думкі.

Хочацца толькі дадаць. Лідэраў сапраўды цяжка адшукаць. А чаму? На маю думку, таму, што ў час сталінізму былі закатаваны не толькі выдатныя дзяржаўныя дзеячы, вучоныя, але і іх нашчадкі. Калі б уваскрэслі зараз Чарвякоў, Гартны, Галадзед, Ігнатоўскі, Убарэвіч, Баліцкі, Прышчэпаў... Адраджэнне адразу б дало вялікія зрухі: быў бы хлеб і сала, культура і родная мова.

Думаю, што недахоп лідэраў — недахоп не толькі нашай Бацькаўшчыны. Лідэраў бракуе і ў іншых краінах СНД. Паглядзіце, хто і як кіруе ў такіх вялікіх дзяржавах, як Расія, Украіна. І там патрабуюцца лідэры.

Нам, беларусам, асабліва нашай нацыянальнай інтэлігенцыі трэба адкінуць разгубленасць. Лідэраў трэба шукаць. Іх мала, але яны ёсць! Ёсць беларусы, якія спалучаюць у сабе інтэлект, волю і вялікую любоў да свае Бацькаўшчыны

**С. МІТРАХОВІЧ,**
**ветэран вайны і працы. Той самы Мітраховіч, які жыве толькі два дні на тыдзень: у чацвер ходзіць у лазню, а ў пятніцу атрымоўвае штотыднёвік «ЛіМ»**

*г. Мінск*

# «РОССИЯ» ПРА БЕЛАРУСЬ

У адзін і той жа дзень атрымаў «ЛіМ» N 49 і расійскі штотыднёвік «Россия», N 51. У «ЛіМе» я звярнуў увагу на артыкул П. Васілеўскага «Для іх свята, для нас — папярэджанне», у якім аўтар дзеліцца развагамі аб новым расійскім гербе. Ён выказвае спадзяванне, што герб гэты больш ужо ніколі не будзе дапаўняцца выявай Пагоні. Каб гэта так і было, трэба даваць рашучы адпор усім, хто марыць аб імперыі 1913 г.

На 3-й старонцы згаданага нумара «России» змешчана размова П. Яблонскага з мэрам Санкт-Пецярбурга і адным з кіраўнікоў Расійскага руху дэмакратычных рэформ А. Сабчаком «Решиться стать камикадзе — не просто». Там ёсць і такі пасаж: «Но я не исключаю, что многие российские территории, переданные... Беларуси, со временем вернутся в состав России».

У сувязі з гэтым артыкулам устае шэраг пытанняў. Цікава, што за тэрыторыі былі перададзены Беларусі? І хто на іх жыве? Можа, гэта Гомель, Віцебск, Магілёў альбо старажытны Полацк? Усе яны пэўны час уваходзілі ў склад РСФСР. Вось толькі ці не з'яўляецца ў дадзеным выпадку больш дакладным рускае слова «возвращенные»?

І апошняе пытанне. Ці не ёсць падобныя заявы афіцыйных асоб падставай да адпаведнай рэакцыі беларускай амбасады ў Маскве альбо Міністэрства замежных спраў Беларусі?

**Сяржук ПАПОЎ**

*г. Масква*

# ПРАЗ ГЕРМАНІЮ — ДАДОМУ

## НЯМЕЦКАЕ МАСТАЦТВА, ШТО НАБЛІЖАЕ НАС ДА УНОВІСА

У час, калі мала чым можна здзівіць гледача, выстава нямецкай графікі 70-х гадоў, якая адбылася ў сценах Дзяржаўнага мастацкага музея, істотна вылучалася ў рознагалоссі тутэйшага мастацкага жыцця, якое хутчэй нагадвае крыклівыя рэкламныя кампаніі, чым грамадзянскі, філасофскі пошук, спробу сцвярджэння сапраўднай асобы. Але, нягледзячы на акалічнасці, мастацтва развіваецца разам з намі, яно — не падручнік, дзе растлумачаны накірункі, жанры, віды. Не ўсё тут мае абгрунтаваны тэарэтычны аналіз. Мяняюцца шляхі стварэння эстэтычнага асяроддзя, і таму штучнае замаруджванне натуральных працэсаў выглядала б сёння не проста смешным, але было б працягам псіхалагічнага эксперыменту над народам. Каб адчуць подых сапраўднай гісторыі сучаснага мастацтва, а не яго імітацый, варта наведваць выставы з серыі сумесных акцый Дзяржаўнага мастацкага музея і Нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ. Гэтыя выставы акрэсліваюць важную праблему асэнсавання страты айчыннай культурай пэўнай колькасці старонак сучаснага мастацтва, няведанне іх не па сваёй волі.

Хочацца вярнуцца на некалькі год назад, да тагачасных рэспубліканскіх выстаў. Ці стаў бы шлях у мастацтве, падобны на нямецкі, такім разбуральным для грамадства, якое сапраўды засвойвае агульначалавечыя каштоўнасці, калі гаварыць не столькі пра форму, колькі пра месца ў агульнаэстэтычным працэсе? Таталітарная сістэма культывавала прынцып «рабі толькі як я» з яўным няпоўнавартасным ідэалагічным падтэкстам. У абмежаванае асяроддзе так званай «савецкай культуры» не ўпісваліся шырокія мастакоўскія погляды на сэнс жыцця. Нямецкая выстава якраз дэманстравала іншыя варыянты культурнага працэсу.

Не ўсе аўтары экспазіцыі «чыстыя» графікі. Відавочна, што дэманстрацыя твораў Ё. Бойса разлічана на гледача, якому ўжо вядомы яго эксперыменты, напрыклад, інсталяцыі. Добра, што арганізатараў не засмуціла тое, што ў Мінску ніколі не экспанаваліся значныя работы ні самога Ё. Бойса, ні Г. Юкера, ні А. Пэнка. Графіка зноў падцвярджае сваю асветніцкую ролю ў фарміраванні цывілізаванага свету, дзякуючы сваёй аператыўнасці і зручнасці распаўсюджвання. Гэта выстава сведчыла, што праз традыцыйныя і новыя выразныя сродкі графіка можа бачыць зменлівы свет, дзе не ўсё так утульна, дзе часам перамагаюць сіюмінутныя прыярытэты, але дзе ніхто не здольны прыпыніць натуральны творчы працэс.

Лёс нямецкага мастацтва падобны на лёс нашага. Таталітарныя сістэмы не задавальняла непадкантрольнасць культуры. Час пасля «Entartete Kunst» /выставы, спецыяльна арганізаванай для знішчэння твораў мастацтва/ вельмі нагадваў перыяд пасля «гістарычных» пастаноў у галіне беларускай культуры 30-х гадоў, калі афіцыйна была забаронена ўласная думка сапраўднага мастака.

Пасля Нюрнберга мастацтва заходніх земляў Германіі, нягледзячы на моцную дынаміку грамадскага развіцця, здолела вярнуцца да прынцыпаў, дасягненняў ранейшага дэмакратычнага мастацтва, пацвердзіўшы яго авангардную ролю, а не шукала апору для развіцця ў таталітарнай культуры /адсылаю чытачоў да матэрыялу Я. Шунейкі «Нямецкі прыліў да нашых берагоў» у «ЛіМе», N 45, 1993/. Графіка 70-х гадоў паказвае ўжо новы ўзровень, новыя тэндэнцыі і настроі. Ужо не бачна той насычанасці колераў, яўнага пошуку форм. Калі мастацтва 30-х гадоў папярэджвала, дэманстравала няпэўнасць і насцярогу, то і графіка 70-х не стала хранікёрам дабрабыту, яна пратэстуе супраць культу завершанасці і бляску. Культура гэтага часу пазбавілася ад жахаў і пагроз знішчэння таталітарнай сістэмай і падкрэслівае каштоўнасць самога творчага працэсу.

Выстава акумулявала высокі аўтарскі цэнз: амаль усе ўдзельнікі «экспанаваліся» ў касэльскім «Дакуменце» і венецыянскай Біенале 60—70-х гадоў. Экспазіцыя адкрывалася работамі Ёзэфа Бойса — аднаго з самых вядомых еўрапейскіх мастакоў пасляваеннага часу. Менавіта з ім звязаны аўтарытэт «Дакумента», яго творчасць моцна паўплывала на развіццё сучаснага мастацтва. Работы Ё. Бойса прыцягваюць філасофскім пошукам, шырокім пластычным дыяпазонам. Неідылічнасць сучаснага свету адбіваецца ў літаграфіях мастака, у іх адгукаюцца ўнутраныя спрэчкі. Наша афіцыйнае мастацтва яшчэ і сёння не пазбавілася самаўпэўненасці, для нямецкай культуры гэта ўжо пройдзены ў 70-я гады этап.

Прываблівають героі работ А. Пэнка /Ральф Вінклер/, выкананыя энергічнымі штрыхамі. Яго творы зроблены сучаснай графічнай мовай, часта плакатнай. Графічныя аркушы надзвычай сучасныя, нават авангардныя па форме, нягледзячы на тое, што вытокі пластыкі ў архаічнай спадчыне. Пэнк гратэскава падкрэслівае адвечную залежнасць чалавека ад прыроды, якую ён імкнецца перамагчы, але зноў і зноў застаецца бездапаможным перад войнамі і катастрофамі.

Міжволі параўноўваеш шляхі развіцця беларускага і нямецкага мастацтва. Да многага яшчэ трэба вярнуцца. Большасць з таго, што было напрацавана на пачатку стагоддзя ў мастацкай культуры, застаецца сёння новым, а Беларусь мае непасрэднае дачыненне да фарміравання ідэй авангарда XX стагоддзя. Тут прайшлі значныя перыяды творчасці вядомых творцаў — К. Малевіча, У. Стрэмінскага, М. Філіповіча, Р. Семашкевіча, Г. Лаўрова і інш. Перад работамі Готхарда Граўбнера, Бланка Палерма бліжэй становяцца эксперыменты УНОВІСА; калі набліжаеш іх да ролі БАЎХАЎЗа ў нямецкай культуры, яшчэ раз упэўніваешся, што мастацтва 70-х гадоў развівае прагрэсіўныя традыцыі ў культуры.

**Міхась БАРАЗНА**



*Ёзэф Бойс. Ліст з папкі «След 1». 1974.*



*А. Пэнк. N 62. 1972.*



*Бланк Палерма. N 53. 1970.*

*Фотарэпрадукцыі В. СТРАЛКОЎСКАГА*

# УСЁ ГЛЫБЕЙ У ГРАЗЬ...

## ДА 70-ГОДДЗЯ З ДНЯ СМЕРЦІ У. І. ЛЕНІНА

*Сто гадоў мы рылі дол для капітала...*

*Аркадзь КУЛЯШОЎ.*

*Не копай под другом своим ямы, Сам ввалишся в ню...*

*Францішак СКАРЫНА.*

## I

НА ПЕРШЫ ПОГЛЯД УЯЎЛЯЕЦЦА, быццам СССР разваліўся нечакана, у мірны час і ўсяго толькі ў выніку здрадніцкай палітыкі Гарбачова ды некаторых ягоных нягодных падтрымшчыкаў з палітбюро — такіх, як, скажам, Якаўлеў або Шэварднадзе. А вось каб не было таго Гарбачова, каб працягвалі панаваць хай сабе нават і атупелыя Брэжневы ды Чарненкі, то ў нас і сёння быў бы вялікадзяржаўны лад з уціхаміранымі прыбалтамі, каўказцамі, без розных там саюдзісаў, рухаў, народных франтоў...

І ўсё ж такі як магло здарыцца, што створаная геніем Леніна Краіна Саветаў, перамогшы ў час другой сусветнай вайны, развалілася без адзінага стрэлу, накіраванага ў бок Масквы, у бок шматлікіх савецкіх армейскіх гарнізонаў у самой краіне і за рубяжом /калі не лічыць Афганістана/?

Нам не надта проста ўсвядоміць, што час быў не такі ўжо і мірны. Дзесяцігоддзямі працягвалася халодная вайна, якая абяскроўлівала краіну, высмоктвала гіганцкія матэрыяльныя рэсурсы, што перапампоўваліся ў Азію, Афрыку, Лацінскую Амерыку, траціліся на разбойніцкую вайну ў Афганістане, на ўтрыманне магутнага ваеннага патэнцыялу, які павінен быў надзейна забяспечваць глабальныя стратэгічныя інтарэсы дзяржавы і служыць апорай для экспарту рэвалюцыі /хоць для гэтай з'явы нашы ідэолагі, філосафы і палітыкі падбіралі больш далікатныя назвы, скажам, «інтэрнацыянальны доўг»/. І гэта адбывалася пры страшэнна неэфектыўнай эканоміцы /чаго варты хоць бы адзін імпарт збожжа!/, пры нізкай прадукцыйнасці працы, пры непамерна раздутых паразітычных структурах у дзяржаўным апараце.

Сама халодная вайна з'яўлялася лагічным і непазбежным вынікам ажыццяўлення ленінскай палітыкі глабальнай пралетарскай рэвалюцыі. Для сусветнага капіталізму выкапалі яму глыбокую-глыбокую — сродкаў для гэтага не шкадавалася. Такую глыбокую, што хапіла для першай у свеце краіны сацыялізму — а гэта была шостая частка нашай планеты — і для ўсяе еўрапейскае сацыялістычнае супольнасці разам з некаторымі «папутчыкамі» з іншых кантынентаў.

Мы аказаліся сведкамі сакрушальнага паражэння ў халоднай вайне, а ў шырокім гістарычным плане — краху той стратэгіі расправы з капіталізмам, якую так геніяльна распрацаваў і ажыццяўляў Ленін. Ды не толькі ён, але і ўсе яго найвярнейшыя вучні ад Троцкага і Сталіна да Хрушчова і Брэжнева. Аднойчы Мікіта Хрушчоў на сесіі Генеральнай асамблеі ААН даказваў перавагі сацыялістычнага ладу, стукаючы лапцем па стале. Калісьці адзін «Мікітаў лапаць» дзякуючы Міхасю Чароту стаў з'явай гісторыі беларускай літаратуры. Другі Мікітаў лапаць увайшоў у аналы ААН і гэтым самым — у сусветную гісторыю. У цэлым жа мірнае і халодна-ваеннае спаборніцтва дзвюх сістэм закончылася крахам ленінска-сталінскай /бальшавіцкай/ мадэлі сацыялістычнага ладу.

## II

У ГІСТОРЫІ ЧАЛАВЕЦТВА не было дзеяча, які б аказаў такі ўплыў на лёс планеты і соцень мільёнаў людзей, як Уладзімір Ільіч Ленін. Ён не толькі, кажучы словамі двух паэтаў, на тройцы рускіх рэвалюцый падняў Расію на дыбы. Ленін стварыў ідэалогію, якая, авалодаўшы масамі, стала не проста матэрыяльнай сілай, а ператварылася ў грымучую сумесь наймагутнейшай разбуральнай сілы. Той, хто быў нічым, раптам здабыў права руйнаваць усё старое «до оснований», каб на руінах і папялішчах стаць гаспадаром жыцця і свету.

Хрысціянская рэлігія абяцала рай пасля смерці, на тым свеце, Ленін — на зямлі, хоць і не адразу. Калі мільённыя масы маглі паверыць хрысціянскім апосталам, прапаведнікам, то ці не больш заманлівымі маглі б з'яўляцца надзеі на зямны, сацыялістычны рай, дзе ўсе павінны былі б аказацца роўнымі, а дзяржаўныя справы меў бы права вырашаць не толькі кожны пралетарый, але нават і кухарка?

Каб мабілізаваць масы, Ленін стварыў партыю новага тыпу — на першых парах партыю фанатыкаў, беззапаветна адданых ідэі, гатовых ісці на катаргу і смерць, выконваць усе загады, наказы, пастановы — не разважаючы і не задумваючыся. Адсюль — свядомае падпарадкаванне жалезнай дысцыпліне.

А ці сапраўды такая партыя была з'явай зусім новай? Хіба ж касцельная іерархія была менш цэнтралізаванай, арганізаванай, дысцыплінаванай і згуртаванай? Хіба ж мала людзей сваёй самаахвярнасцю і нават пакутніцкай смерцю даказала беззапаветную адданасць веры Хрыстовай?

Ленін стварыў рэпрэсіўны апарат для бязлітаснага вынішчэння іншадумства. І дзейнічаў ён няшчадна, выкараняючы антысацыялістычную — рэальную ці ўяўную — дзейнасць і крамолу. А ці не бачыцца і тут багаты вопыт колішняй інквізіцыі з публічнымі расправамі над ерэтыкамі, ведзьмамі, шкоднымі кнігамі і ідэямі?



Фота А. МАЦЮША

Можа, толькі чысткі ў сваім асяроддзі бальшавікі не пераанялі ад кагосьці. Манаполія на такое адкрыццё хай застаецца за імі, хоць, можа, калі б пакапацца ў гісторыі краіны, то нейкія аналогіі і ўдалося б знайсці.

І яшчэ адна аналогія просіцца, каб яе не абмінулі. І хрысціянская рэлігія, і бальшавікі ўрачыста абвяшчалі права ўсіх людзей на шчасце, прызнавалі роўнасць кожнага чалавека перад Богам ці проста ў грамадстве. Але і тут не абышлося без накладак. Бальшавікі ў адпаведнасці з матэрыялістычным разуменнем развіцця грамадства і заканамернасцей гісторыі павінны былі спачатку вынішчыць пад корань усе эксплуататарскія класы, прытым не толькі буржуазію /у тым ліку і дробненькую/ і памешчыкаў, але і ўсякіх там кулакоў з падкулачнікамі з неабмежаваным правам залічваць да гэтай катэгорыі класава варожых элементаў любога селяніна. Вынішчаліся гэтыя класы з такім дыктатарска-пралетарскім запалам і азартам, што ў чэкісцкую мясарубку траплялі без разбору нават і партыйныя, і гаспадарчыя, і ваенныя, і культурныя, і навуковыя кадры. Тут у поўную сілу на практыцы ажыццяўляўся прынцып: бі свой свайго, каб чужыя баяліся.

Абсалютная роўнасць была ўсё ж такі ўстаноўлена, але толькі ў гулагах. Яна расцягвалася і на членаў сем'яў усіх так званых «ворагаў народа». Як сказаў А. Твардоўскі:

**И за одной чертой закона**
**Уже равняла всех судьба:**
**Сын кулака иль сын наркома,**
**Сын командира иль попа.**

Кажуць: з песні слова не выкінеш. Тым больш з найсвяцейшых царкоўных законаў. Згадаем 10 запаведзяў, абвешчаных Богам Майсею на каменных скрыжалях. Там Бог загадаў не забіваць, не красці, не распусьнічаць. І ёсць такі наказ /даецца ён у скарынінскім перакладзе/: «Не пожадай жены ближнего своего, и ни дому его, и ни поля, и ни раба, и ни рабыне, и ни вола, и ни чегожь, что его ест» /«Вторый закон»/. У сучасным рускім перакладзе тое месца гучыць наступным чынам: «Не желай жены ближнего твоего и не желай дома ближнего твоего, ни поля его, ни раба его, ни рабы его, ни вола его, ни осла его /ни всякого скота его/, ни всего того, что есть у ближнего твоего» /«Второзаконие», 5—21/. Адсюль вывад такі, што свайго раба можна мець, толькі чужога жадаць — гэта ўжо грэх.

Але як бы там ні было, у хрысціянскім вучэнні ёсць магутны гуманістычны патэнцыял. Ён дазволіў рэлігіі прыстасавацца да надзвычай цяжкіх умоў, выжыць і аказаць моцнае ўздзеянне на грамадства, на многіх людзей, якія ў веры шукаюць суцяшэнне ці аблягчэнне пакут. Міласэрнасць, словы спагады спакутаваным і тым больш рэальная дапамога ім адкрывае ў нашых умовах неабмежаванае поле дзейнасці перад хрысціянамі ўсіх абрадаў.

Рэальны гуманістычны ідэал быў і ў тэорыі бальшавізму: патрабаванне сацыяльнай роўнасці, права на працу, на забяспечаную старасць; дзяржаўная апека над навукаю, культураю, мастацтвам; усеагульная гарантаваная адукацыя, ахова здароўя, права /хоць і фіктыўнае/ на такое месца ў грамадстве, якое чалавек заслугоўвае сваёй працай і ведамі. Не калі-небудзь, а пры бальшавіках у Беларусі была створана цэлая сетка вышэйшых навучальных устаноў, Акадэмія навук, кожны меў права на бясплатнае лячэнне і танныя лякарствы, усе дзеці абавязаны былі вучыцца. Было ліквідавана беспрацоўе, адна за адной прымаліся маштабныя жыллёвыя праграмы. Была шырокая сетка дзіцячых ясляў, садзікаў, дамоў адпачынку, санаторыяў. А колькі кніг і газет выдавалася!

Здавалася б, чаго яшчэ трэба? Чаму ж, аднак, за камуністаў у час апошніх свабодных выбараў у Расіі прагаласавала мала людзей, нягледзячы нават на тое, што жыццёвы ўзровень насельніцтва знізіўся ў некалькі разоў? Праўда, там, дзе былыя камуністы зрабілі належныя вывады з урокаў гісторыі, адкінуўшы экстрэмісцкія бальшавіцкія канцэпцыі, яны зноў аказаліся рэальнай грамадскай сілай, як гэта здарылася ў Літве ці Польшчы. Ды нават папа рымскі ў энцыкліцы «Splendor veritas» /«Бляск праўды»/ і ў адным з інтэрв'ю асудзіў некаторыя заганы капіталістычнага грамадства і палічыў патрэбным заявіць, што і з сацыялістычных дактрын трэба браць тое, што там ёсць карыснага.

Сённяшні крах бальшавіцкай сістэмы быў прадвызначаны яшчэ Леніным, хоць, можа, і цяжка ў гэта паверыць, бо ён, як ніхто, дакладна ўмеў ацэньваць бягучы момант, знаходзіць выхады з найбольш складаных сітуацый. Гэта мы бачым нават на прыкладзе Беларусі. Калі ў Рызе бальшавікі аддалі, будзем лічыць, палавіну яе палякам, то ва ўсходняй частцы рэспублікі даволі хутка разгарнулася маштабная палітыка беларусізацыі, каб працоўныя Заходняй Беларусі бачылі тут сваю радзіму.

У перспектыве гэта прывяло да захавання самой ідэі беларушчыны, беларускай нацыянальнай адметнасці, захавання мовы і развіцця культуры. Такім вось чынам Юзэф Пілсудскі, захапіўшы беларускія землі, садзейнічаў выратаванню беларушчыны як такой. Няцяжка сабе ўявіць, што адбылося б за гады савецкай улады, калі б нечаканыя абставіны не прымусілі розных Кнорыных прызнаць наяўнасць беларускай нацыі і ўсямерна спрыяць пашырэнню беларускае мовы, развіццю мясцовай культуры і літаратуры.

У нацыянальным пытанні Ленін паспеў паказаць сваю дальнабачнасць і глыбокае пранікненне ў сутнасць рэальных працэсаў. Вось як некаторыя справы бачыліся ім 30 снежня 1922 года: «... Вельмі натуральна, што «свабода выхаду з саюза», якой мы апраўдваем сябе, акажацца пустой паперкай, няздольнай абараніць расійскіх іншародцаў ад навалы таго ісцінна рускага чалавека, велікароса-шавініста, па сутнасці, нягодніка і гвалтоўніка, якім з'яўляецца тыповы рускі бюракрат /.../ Але тут паўстае пытанне /.../, ці прынялі мы з дастатковай клапатлівасцю меры, каб сапраўды абараніць іншародцаў ад ісцінна рускага дзяржыморды? Я думаю, што мы гэтых мер не прынялі, хоць маглі і павінны былі прыняць».

На наступны дзень, 31 снежня, Ленін патрабаваў: «... Трэба ўвесці найстражэйшыя правілы адносна ўжывання нацыянальнай мовы ў іншанацыянальных рэспубліках, якія ўваходзяць у наш саюз, і праверыць гэтыя правілы асабліва старанна. Няма сумнення, што пад выглядам адзінства чыгуначнай службы, пад выглядам адзінства фіскальнага і да т.п. у нас /.../ будзе пранікаць мноства злоўжыванняў ісцінна рускага характару. Для барацьбы з гэтымі злоўжываннямі неабходна асаблівая вынаходлівасць, не гаворачы ўжо аб асаблівай шчырасці тых, якія за такую барацьбу возьмуцца» /«Да пытання аб нацыянальнасцях ці аб «аўтанамізацыі». ПЗТ, т. 45, с. 356 — 362/.

Вядома, што падобныя ленінскія выказванні ніяк не служылі пуцяводнай зоркай для такіх беларускіх кіраўнікоў і ідэолагаў, як, скажам, Мазураў, Слюнькоў, Сакалоў, Пячэннікаў ці агітатар-прапагандыст Савелій Паўлаў. І калі сёння хтосьці оптам закрэслівае ўсю ленінскую ідэйную спадчыну апошніх гадоў, то гэтым самым ён становіцца ў нейкай ступені аднадумцам і ідэйным сваяком пералічаных і многіх іншых «таварышаў».

А можа, і сапраўды Сталін, Хрушчоў, Брэжнеў звярнулі з адзіна правільнага ленінскага шляху і павялі нас усіх на бездарожжа і ў канчатковым выніку завялі ў тупік, у якім мы сёння апынуліся?

Не, усе яны без адхіленняў ішлі ў тым напрамку, што вызначыў ім Ленін. Як гэта ні парадаксальна гучыць, але і развал СССР і ўсё тое, што здарылася, аказалася вынікам ажыццяўлення ленінскай палітыкі. Каб пераканацца ў гэтым, звернемся да першакрыніц, да прац самога правадыра.

Калісьці, чытаючы Леніна, мы абавязаны былі бачыць у яго толькі тое, што нам дазвалялі ідэалагічныя наглядчыкі ўсіх рангаў. Для кожнай думкі класікаў марксізму-ленінізму была афіцыйная трактоўка, узаконеная на найвышэйшым узроўні. І так, скажам, пра артыкул «Аб лозунгу Злучаных Штатаў Еўропы» мы толькі мелі права ведаць, што там упершыню была абгрунтавана ідэя аб магчымасці перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі ў адной, асобна ўзятай краіне. Само сабой разумелася, што гэтай краінай павінна была /ці магла/ стаць Расія. А калі я прачытаў той артыкул свежым вокам ды яшчэ з правам на самастойнае разуменне, то пераканаўся, што больш важная думка ніяк не афішыравалася. Між тым Ленін са свайго адкрыцця рабіў і практычныя вывады. Іх нам і варта нагадаць: «Перамогшы пралетарыят гэтай краіны, экспрапрыіраваўшы капіталістаў і арганізаваўшы ў сябе сацыялістычную вытворчасць, стаў бы **супраць** астатняга, капіталістычнага свету, прыцягваючы да сябе прыгнечаныя класы іншых краін, узнімаючы ў іх паўстанне супраць капіталістаў, выступаючы ў выпадку неабходнасці нават з ваеннай сілай супраць эксплуататарскіх класаў і іх дзяржаў. Палітычнай формай грамадства, у якім перамагае пралетарыят, звяргаючы буржуазію, будзе дэмакратычная рэспубліка, якая ўсё больш цэнтралізуе сілы пралетарыяту дадзенай нацыі або дадзеных нацый у барацьбе супраць дзяржаў, што яшчэ не перайшлі да сацыялізму. /.../. Немагчыма свабоднае аб'яднанне нацый у сацыялізме без больш-менш доўгай, упартай барацьбы сацыялістычных рэспублік з адсталымі дзяржавамі» /Ленін У. І. Выбраныя творы ў 10 тамах. Т. 6. — Мінск, 1989, с. 306/. Так выглядала праграма экспарту рэвалюцыі — адна з найбольш катастрафальных праграм у ленінскім вучэнні.

Гэта быў жнівень 1915 года. Наперадзе былі рашаючыя бітвы першай сусветнай вайны. А **Ленін нацэльваў партыю на бальшавіцкую рэвалюцыю і будучую**

(Працяг на стар. 12)

## ЛАЎРЭАТЫ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ»

**Часопіс «Беларусь» назваў аўтараў лепшых матэрыялаў, апублікаваных на яго старонках у 1993 годзе. Лаўрэатамі сталі А. Асіпенка /апавяданне «Курортны блюз»/, У. Паўлаў /трыялеты/, В. Адамчык /апавяданне «Сцежка на расходніку»/, У. Васілевіч /цыкл матэрыялаў «Беларуская міфалогія»/.**

## ГЭТА БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ВОБЛІК...

**Неблагі падарунак атрымалі тыя, хто хоча паболей ведаць пра слаўнае мінулае роднага краю: выдавецтва «Беларусь» выпусціла набор паштовак «Помнікі архітэктуры Беларусі». На дванаццаці картках /фота Г. Ліхтаровіча, К. Захарава, А. Шчукіна/ адлюстраваны Барысаглебская /Каложская/ царква ў Гародні, знакамітая Белая Вежа ў Камянцы, палацава-замкавы комплекс Нясвіжа, касцёл дамініканцаў у Ружанах і іншыя збудаванні, што сведчаць аб майстэрстве нашых папярэднікаў. Аўтар тэксту — Т. Габрусь.**

## СПАДЧЫНЫ ГАЮЧАЯ СІЛА...

**Сумеснымі намаганнямі выдавецтва «Мастацкая літаратура» і педагагічнага калектыву ў СШ N 11 г. Мінска праведзены ўрок «Матчына слова». Ён адначасова стаў і свайго роду прэм'ерай кнігі У. Зянько «Спадчына маёй маці». Адкрыў урок паэт, прэзідэнт Чарнобыльскага фонду «Палескі смутак» М. Мятліцкі. Перад школьнікамі выступілі настаўніца Г. Сасноўская, завуч па выхаванні Я. Іванішчава, дырэктар А. Грушэўская, загадчык рэдакцыі прозы «Мастацкай літаратуры» У. Рубанаў, загадчык рэдакцыі серыйных выданняў, ён жа рэдактар кнігі «Спадчына маёй маці» Г. Шупенька. Усе яны гаварылі пра неабходнасць зберажэння нацыянальнага фальклору, важнасць яго ў далучэнні да агульначалавечых каштоўнасцей. Выступілі таксама юныя чытальнікі, удзельнікі школьных самадзейных ансамбляў.**

**Н. К.**

## У СЕРЫІ «ЗГУКІ МІНУЎШЧЫНЫ»

**выдавецтвам «Навука і тэхніка» выпушчана кніга І. Абдзіраловіча «Адвечным шляхам». Перадрук зроблены з выдання 1921 года з захаваннем адметнасцяў арыгінала /прадмова С. Дубаўца/. Што тычыцца зместу гэтай працы, дык, думаецца, уяўленне аб ім дае ўжо падзагаловак: «Даследзіны беларускага светапогляду». Дарэчы, можна было пазнаёміцца з ёй у зборніку літаратурна-крытычных артыкулаў «Вобраз-90». І. Абдзіраловіч /сапраўднае прозвішча — Канчэўскі/ задумваецца над шляхам, пройдзеным беларускай нацыяй, разважае над спецыфічнасцю яе лёсу.**

## «ЦУДОЎНЫ КУФЭРАК»

**Вялікая ўрачыстасць адбылася ў Магілёўскім педвучылішчы, ці як, не зважаючы на старую шыльду на будынку, яго цяпер з гонарам называюць навучэнцы і выкладчыкі — у педагагічным каледжы.**

**Урачыстасць гэтая — прэзентацыя рукапіснага часопіса «Цудоўны куфэрак», над стварэннем якога шмат папрацавалі будучыя настаўнікі пад кіраўніцтвам выкладчыцы Т. Арасланавай. У часопісе — мастацкія спробы навучэнцаў, нататкі аб родным краі і замалёўкі аб прыродзе, народныя песні і смяшынкі, куток гаспадыні. Па кожным з раздзелаў быў свой вядучы-дакладчык, выступленне якога суправаджалася дэкламацыяй і чытаннем вершаў і абразкоў, выкананнем песень, выступленнямі музыкаў і танцораў. І не толькі свае самадзейныя артысты, але і з педінстытута імя А. Куляшова. Парадавала таксама музыкай і песнямі сталічная група «Камэлот».**

**На імпрэзе выступілі сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў І. Аношкін, старшыня гарадской рады Таварыства беларускай мовы Я. Клімуць, дырэктар гарадскога краязнаўчага музея І. Пушкін, кіраўнік фонду адраджэння культурнай спадчыны Магілёва Н. Рослава і іншыя.**

І. ГАЛІНОЎСКІ

## ЧЫТАЧ ДЗЕЛІЦЦА ЎРАЖАННЯМІ

***У адрозненне ад крытыкаў-прафесіяналаў, якія бяруцца падчас пісаць пра твор без аніякага эмацыянальнага водгуку на гэты твор, нашы чытачы адгукаюцца толькі на тое, што ўсхвалявала, выклікала захапленне або, радзей, непрыманне. Іх допісы не прэтэндуюць на значнасць абагульненняў і глыбіню аналізу, затое вылучаюцца непасрэднасцю душэўных рухаў і свежасцю ўспрымання. Такім чынам, перад вамі — традыцыйная падборка чытацкіх лістоў.***

# «ПАМЯЦЬ ЛЮДСКУЮ НЕ ЎТОПІШ»

Паміж стракатых вокладак кніжак аб прыгодах Анжэлікі і Эмануэль бел-чырвона-белы сцяжок на карэньчыку гэтай кнігі здаўся ўмоўным знакам, а адначасна — знакам надзеі: на маёй кніжнай паліцы ўжо была «Пагоня на Грунвальд» К. Тарасава пад гэтым жа сцягам. Таму рука міжволі пацягнулася да томіка, і ўжо гэты жэст быў пачаткам пазнання. Уладзімір Арлоў. Апавяданні і аповесць «Сны імператара». Сёе-тое са змешчанага ў кнізе я ўжо ведала, многае адкрыла для сябе ўпершыню. Але і знаёмыя, і незнаёмыя творы былі прачытаны на адным дыханні. Першым пачуццём было шкадаванне, што няма магчымасці зрабіць спецыяльнае даследаванне /час курсавых і дыпломных незваротна мінуў, а кандыдацкая так і засталася нязбытнай марай настаўніцы, якая мае паўтары стаўкі, дваіх дзяцей і не вельмі надзейны «тыл»/. І ўсё ж думкі просяцца на паперу.

Прынцып «словам цесна, а думкам прасторна» як нельга лепш стасуецца да зместу гэтай кнігі. Прыгадваецца і іншае выслоўе: сціслась — сястра таленту, а яго адзнака ляжыць на пераважнай большасці твораў, што кнігу склалі.

Не ведаю, як паставіліся б прафесійныя літаратуразнаўцы да такога факту: у кожным апавяданні знаходзіш нешта да болю знаёмае. Яно і ў амаль Скарынавым «... у нас, у людзей, радзіма-зямля. І не ўся, а тая, дзе мы нарадзіліся і ўскормлены, дзе на нашай мове людзі між сабою гавораць» /«Каля дзікага поля»/. І вось у гэтых радках /адтуль жа/: «Няхай кожнае княства само па сабе будзе, але каб у міры жылі і супроць паганых купна стаялі». Крыху перафразіраваўшы аўтара бессмяротнага «Слова...» — з улікам рэалій сённяшняга дня, У. Арлоў вяртаецца разам з ім у далёкае XII стагоддзе.

Разважанні аб нацыянальным характары беларуса ў лісце расійскага стральца /«Пішу вам у Масковію»/ вельмі блізкія па духу да караткевічаўскіх. Узаемадачыненні вернікаў розных канфесій у Полацкім княстве, беларуская талерантнасць — нібыта водгук і Лойкавых даследаванняў пра Полацк часоў Скарыны. А захапляючыя апісанні прыкмет і тайніц, прымхаў і забабонаў полацкіх месцічаў адыходзяць каранямі ці не ў часы фантастычных апавяданняў шляхціца Завальні.

Лёс мастака ва ўсе часы быў трагічным. Легенда пра асепленых князем праўдзівых цудатворцаў бацьку і сына, размаляваўшых храм фрэскамі, роўных якім не было /«Маналог святога Пётры»/ — гэта і адбітак лёсу Люцыяна Таполі, апетага Максімам Танкам, і дойлідаў з паэмы «Зодчие» Дзмітрыя Кедрына. А ў якія толькі вобразы ні ўвасабляецца апавядальнік! Стары крумкач, «важак навакольных крумкачоў», «гаспадар наваколля». Іван Карпач, адзін з арганізатараў Крычаўскага паўстання. Напалеон Банапарт. Святы Пётра, драўляная скульптура, «стагоддзі на тры з паловаю» старэйшая за навуковую супрацоўніцу музея. Аляксандр Незабытоўскі, пан, які «... зразумеў, што ў яго ёсць свой народ, без якога чалавек падобны на матылька, якога нясе вецер».

Пяцёра мужчын у лесніноўцы, якія «апынуліся заадно не таму, што сябравалі...» Клён, які «ўсё памятаў». Самотны птах, «незвычайны сваёй звычайнасцю». Рад, як бачым, даволі дзіўны і ніяк не сінанімічны звонку. Аднак гэта толькі на першы погляд. Кожны з герояў апавядае пра падзеі нашай гісторыі, прапускаючы іх праз уласнае ўспрыманне, таму так выразна і шматфарбна ўяўляецца кожны эпізод.

Апавяданне, што дало назву зборніку, хочацца адзначыць як прыклад захапляючай адпаведнасці формы зместу. Форма, дасканалая пры сваёй нязвыкласці, — маналог, выпісаны з ювелірнай дакладнасцю. Незалежна ад волі чытача ва ўяўленні ўзнікаюць лёгкія рухі, жэсты, усмешка — спачатку неакрэслена-летуценнае жаночае аблічча, якое пакрысе набывае выразнасць, закончанасць, рэльефнасць. Ствараецца ўражанне, што ўсё гэта /карыстаючыся выразам з самога твора/ — deja vu, тое, што ўжо бачыў. Пяшчота, жаданне кахаць і быць каханай, клапаціцца пра абранніка, туга па моцным плячы — спрадвечныя памкненні жанчыны. Аднак трывожыць прадчуванне нейкай трагедыі. «Мне здаецца, і гэты вось камін, і клавесін, і гравюра, і гадзіннік... Так, дарагая, у гэтым краі я не першы раз. Дзесяць гадоў таму... Даруйце, дарагая, я не пытаюся, што здарылася з вашым мужам, чаму вы так рана засталіся адны...»

Паступова змяняецца тон, настрой, выразы, здаецца, нават і характар апавядальніка. «Мяцеж», «бунтаўшчыкі», «падбухторскія лісткі», «мясцовыя сепаратысты». І — рэзюме: «Расеі для выканання яе высокай гістарычнай місіі яшчэ адзін, да таго штучна створаны народ зусім не патрэбны».

Паўстае трагедыя асабістая: адзінота, крушэнне надзей на жаночае шчасце. Трагедыя чалавечага жыцця, пазбаўленага сэнсу, бо тое, на што яно пакладзена, — падман... Урэшце, трагедыя нацыянальная: «... адна школа — зразумела, расейская — зробіць больш за цэлую армію».

У апавяданні, як і ў жыцці, побач ужываюцца вытанчаныя пачуцці і тонкі, езуіцкі разлік, каханне да асобнага чалавека і знявага да народа, якому ён належыць /«Лішні народ — лішнія праблемы»/, да яго краю, талентаў, мовы, звычаяў: «Ма-чан-ка? Дзікунская назва! І з гэтае прычыны яшчэ смачней», «... з дазволу сказаць, нейкай Бе-ла-ру-сі»; «... так званы камісар Гарадзенскай губерні Вікенцій... Вікенцій...»; «Міцкевіч? А я люблю Фета...» Сінтаксіс гэтага апавядання ўшчэнт разбівае сцвярджэнне, што словазлучэнні і сказы служаць толькі сродкам камунікацыі і выяўляюць больш ці менш закончаную думку. Не, не толькі! Яны выпраменьваюць пяшчоту, ззяюць захапленнем, камянеюць ад болю, сцякаюць крывёю загінуўшых у безвыходнасці надзей. Нават знакі прыпынку — нямы адбітак пачуццяў, якія крычаць у кожным радку. «Мадам! Як вы сабе дазваляеце гаварыць з расейскім афіцэрам?! Як вы смееце?!»

Ну, вось і ўсё. Злятаюць долу маскі. У фінале высвятляецца, хто ёсць хто. Перад вачыма — пані Людвіка. Але чаму ў яе такое дзіўна знаёмае аблічча? «Юная жанчына ў белай сукенцы з палярынай. У руцэ букецік дробных блакітных кветак з жоўтымі вочкамі.

І зноў пах дыму, пах і смак суніцаў...»

Такою бачыць пісьменнік Беларусь. Такою яе бачыць і Напалеон у час, блізкі да смяротнага /«Сны імператара»/. За паўтара месяца ён вызваліў усю гэтую краіну ад расейскага прыгнёту. Але не даў ёй сапраўднай незалежнасці, не дазволіў Польшчы і Вялікаму княству злучыцца ў федэрацыю. Сялянская вера згарэла ў агні, і мужыкі ўзяліся за зброю... «Гэта была яна! Яна прыйшла судзіць яго ад імя сваіх і іншых народаў. Яна перашкодзіла яму вярнуцца ў Еўропу... Гісторыю Напалеона будуць нанова перапісваць кожныя пяцьдзесят гадоў, але ніхто не даведаецца, якая роля належала ў ёй маленькай безыменнай жанчыне з мушкамі — іскрынкамі ў вачах...»

Пры жаданні прафесійныя крытыкі маглі б вельмі лёгка абвінаваціць Уладзіміра Арлова не толькі ў плагіяце, але і ў ... нацыяналізме. Часам адмыслова прыхаваным. Мова расейская «да нашае падобная, хоць, бывае, і нялёгка яе разабраць. Вось, да прыкладу, нашае слова « благо» ў іх зусім супраціўнае значыць».

Выходзіць, калі расейцам на Беларусі добра, то тутэйшым якраз наадварот?! А то «смяяўся адзін збройнік... з казкі нашай маскоўскай пра Ямелю і дзівіўся, што мы гэтага Ямелю, які на печцы рукі склаўшы сядзіць, не ганім, а нібыта любім» /«Пішу вам у Масковію»/.

Часцей жа нацыяналізм увогуле «непрыкрыты»! «Тут хоць лусту хлебную прысаліць маем, а там у людзей і солі няма... Лепей я ўжо ў сваю зямлю лягу!» /«Клятва князя Гераніма»/. Але дазвольце мне, дылетанту ў крытычнай справе, запярэчыць сваім уяўным апанентам. Нацыяналіст адназначна зняважае другія народы /гл. «Рандэву на манеўрах»/. Арлоў жа — паважае свой. Чытаем словы інсургента Сокалава, рускага чалавека, двараніна, што змагаецца на баку Каліноўскага: «Народ, які пануе над іншымі, не можа быць свабодным. Ён разбэшчваецца і жыве ў духоўным рабстве. Колькі б нягоднікаў ні было сярод якога-небудзь народа, я веру, што сумленных людзей у яго ўсё адно больш».

Сярод сумленных рускіх людзей — баярын Аляксей Адашаў, «настаўнік душы царовай» Сільвестр, князі Абаленскі, Кашын, Рапнін /«Пішу вам у Масковію»/.

Пісьменнік добра разумее, што ёсць рускія — і рускія, што палітыку робіць не нацыянальная прыналежнасць людзей, а дзяржаўны лад, а ён за доўгія стагоддзі ў Расіі выхаваў «людзей, што да штодзённых стратаў прылюдных і здзекаў прывычныя будуць, і да таго, што жыццё людское меней за медны грош каштуе, такіх, што без даносаў адно на аднаго жыць не змогуць, такіх, што казаць будуць не тое, што думаюць, а думаць не тое, што сказалі, такіх, што з рабствам сваім так зжывуцца, што мацней за волю яго палюбяць...» У гэтых радках пазнаём і сябе, шаноўныя беларусы. І каб адолець у сабе раба, трэба памятаць усё, чым слаўна наша мінулае, і ўсведамляць, у чым наша ганьба. «Звон крычаўскі ў рацэ ўтапіць можна, а памяць людскую не ўтопіш. Не патоне яна, пакуль хоць адна жывая душа на нашай няшчаснай зямлі волі хоча». Яе, народную памяць, і хацеў знішчыць князь Геранім, прымушаючы Івана Карпача перапісаць гісторыю Крычаўскага паўстання і цаною здрады купіць сабе жыццё. «Ты новую гісторыю напішаш. Як добра вам пад маёй уладаю жылося. І ніколі вы ў такім шчасці не жылі, бо не бачыў яшчэ свет валадара мудрэйшага і справядлівейшага, ніж Геранім Радзівіл» /«Міласць князя Гераніма»/.

Аўтар кнігі «Рандэву на манеўрах» плённа развівае лепшыя традыцыі перадавой беларускай літаратуры, удала ўплятаючы ў класічны нацыянальны арнамент свае творчыя здабыткі. Сіла ўздзеяння яго мастацкага слова такая, што выклікае высокія думкі, абуджае імкненне да высокіх учынкаў. Пошукамі святла і праўды і напоўнена новая кніга Уладзіміра Арлова.

**Алена БАРАДЗІНА**

*г. Баранавічы*

## ЗНОЎ — КОЛЕР

**І адзінаццаты нумар часопіса «Роднае слова» выйшаў з каляровымі ілюстрацыямі. Гэтым разам змешчаны рэпрадукцыі карцін серыяла «Радзіма Якуба Коласа», выкананых У. Сулкоўскім. Друкуюцца слова галоўнага рэдактара М. Шавыркіна «Мова — душа народа», штрыхі да творчага партрэта В. Адамчыка «Дайсці да праўды», напісаныя Т. Грамадчанкай; нататкі М. Скоблы пра М. Кавыля «Беларусь б'е ў сэрца», артыкулы В. Русілкі «Колеравая палітра паэм Якуба Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка», Т. Шамякінай «Мужчына і жанчына ў міфалогіі, рэлігіі, літаратуры», працяг артыкула А. Хатэнкі «Па прыступках лесвіцы вечнай», пачатак «Календара юбілейных дат і памятных дзён на 1994 год», складзенага Я. Саламевічам; слова С. Панізніка пра К. Езавітава, іншыя матэрыялы.**

## СТУПАЮЧЫ ПА ЦАЛІКУ

**Дваццаць пяць гадоў займаецца кандыдат фізіка-матэматычных навук А. Болсун упарадкаваннем беларускамоўнай лексікі, што ўбірае ў сябе розныя фізічныя, матэматычныя, а калі глядзець шырэй — тэхнічныя тэрміны. З таго самага моманту, як стаў у колішняй БелСЭ загадваць рэдакцыяй фізікі, матэматыкі, хіміі і астраноміі. Ступаючы па сутнасці па цаліку, ужо тады, калі рэдка хто з так званых «тэхнароў» з павагай ставіўся да беларускай мовы, ён уводзіў паняцці, адэкватныя рускім. Паступова сабралася матэрыялу на цэлы слоўнік.**

**«Руска-беларускі фізічны слоўнік» А. Болсуна і пабачыў свет у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя». Ён складаецца з асноўных тэрмінаў, без якіх не абысціся ў паўсядзённым навуковым ужытку, а гэта каля пяці тысяч слоў. Прадмову да слоўніка напісаў доктар фізіка-матэматычных навук А. Богуш. Ён жа з'яўляецца і навуковым рэдактарам выдання.**

## УРОКІ РОДНАЙ МОВЫ

**атрымаюць для сябе курсанты Мінскага вышэйшага ваеннага інжынернага вучылішча, пазнаёміўшыся з аднайменным дапаможнікам, падрыхтаваным Л. Карабельнікавай і Н. Снагоўскай. Наклад яго, праўда, не такі і вялікі, усяго 700 асобнікаў. Ды, як кажуць, для сваіх людзей і гэтага хопіць. Галоўнае ж, што у вучылішчы разумеюць — у беларускай дзяржаве і войска мусіць быць сваім, беларускім, а, значыць, карыстацца і роднай мовай.**

## ШЛЯХАМІ МУЖНАСЦІ

**ішоў па жыцці вядомы беларускі пісьменнік Піліп Пестрак, пясняр свайго трывожнага, складанага і супярэчлівага часу. Пра гэта гаварылі ў Доме літаратара на вечары, прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння Піліпа Сымонавіча, І. Шамякін, У. Юрэвіч, П. Прыходзька, Я. Пархута, А. Гардзіцкі, К. Хромчанка. Прыгадалі яны і свае сустрэчы з ім.**

**Вёў вечарыну намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў. Творы П. Пестрака чыталі народная артыстка Беларусі М. Захарэвіч і У. Рагаўцоў.**

## ПА-БЕЛАРУСКУ ГУЧАЛА

**пераважная большасць твораў у час конкурсу чытальнікаў у Магілёўскім гарадскім Доме культуры. Яго ўдзельнікаў вітаў рэдактар мясцовай газеты «Ратуша» А. Сердзюкоў. Вынікі конкурсу аб'явіў сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі І. Аношкін. Першае месца прысуджана В. Іскаровай і Т. Емяльянавай, другое — У. Галубіцкаму, А. Вялічцы, А. Дзятлаву і А. Касянковай, трэцяе — Н. Лосевай, Н. Драздовай, І. Гурскай, Л. Тарасаву, Л. Бараноўскай. Іх чакае ўдзел у абласным аглядзе.**

**І. ГАЛІНОЎСКІ**

## «БГЧ», N 3

**У трэцім нумары «Беларускага гістарычнага часопіса» апублікаваны артыкул У. Адамушкі «Ігнат Дварчанін — рэвалюцыянер, гісторык, паэт». Аўтар прыводзіць новыя факты, узятыя з архіваў, у тым ліку і з архіваў КДБ, што да нядаўняга часу былі закрыты для даследчыкаў.**

**У часопісе шмат і іншых цікавых матэрыялаў. Змястоўныя падборкі артыкулаў «Тураўская зямля» і «Да 130-годдзя паўстання ў Польшчы, Беларусі, Літве». Дзякуючы В. Скалабану апублікаваны працяг стэнаграмы «Усебеларускі з'езд 1917 года: сведчанне сучасніка». Друкуецца прыкладная праграма курса /факультатыва/ «Гісторыя культуры Беларусі», складзеная І. Чыкалавай.**

Паэзія

Васіль ВІТКА



# З КНІГІ «АПОШНІ АЎТОГРАФ ЧОРНАГА ДЗЯТЛА»

## ЯК ХТО І КАМУ СПЯВАЕ

**Салавей для слухача,
А дзяркач для дзеркача.
Удод для удода,
Дый і сабаку не ўвярода,
І той падвые часам,
І нам падцягне басам.**

*1993*

## МЫ БЕЗ ЗІМЫ

**У лістапад перадрыжаўшы ад сцюжы,
Жахаліся — неўпару прыйдзе зіма.
Ажно ж развітацца забегла яна,
Пакінуўшы ўсюды разводдзе калюжын.**

**Быў снежань няхлода, а студзень як скнара.
Снег і мароз — дарагія дары.
Не купіш на нашы бабры і зубры,
Не раскашэлішся і на даляры.**

**Наканавана ў жабрацкім годзе,
Што і сіротамі сталіся мы,
І без сустрэчы, і без праводзін,
Без мілае матухны нашай — зімы.**

*7.01.1994*

## СЕМ ПРЫМАВАК

*Янку БРЫЛЮ*

### ВЯЛІКДЗЕНЬ

**Траўка брацца пачала,
У імшаніку пчала
Прачнулася і гудзе:
— Хутка ўжо Вялікі дзень!**

**А людзі між сабою
Пацяшаюцца вярбою.
Ніхто нікога не міне —
Ні цябе, ні мяне.**

**І мяне, і цябе
Кожны дубцом сцебане:
— Не я б'ю, вярба б'е,
За тыдзень — Вялікдзень!**

**— І ты, родны народ,
Будзь здароў на ўвесь год!**

### ГРОШЫ

**Чуў аднойчы крыўду я
Ад старога вераб'я:
Ў каго грошы, той харошы.
Толькі чым я харош,
Хоць і маю медны грош,
А грош роўны паўкапейцы —
Як пражыць маёй сямейцы?**

**Вераб'я праз год сустрэў.
Яшчэ болей пастарэў.
Але жвавы, як і быў.
— Як жывеш?
— Жыў, жыў,
Жыў, жыў!**

### ДРУГ

**Друг не той,
Хто мёдам губы мажа,
А сапраўдны мой,
Што праўду ў вочы кажа.**

### ПРЫКАЗКА

**Добрая прыказка,
Як пры мяшку прывязка.
Хто прыказку скажа —
Мяшок вузлом завяжа.**

### ХЛЕБ

**І ва ўмелых, і няўмелых
Ён бывае розны, ўсякі:
Пытляваны, сітны, белы,
Шэры, чорны і ніякі.**

### ЮХТ

**Натрапіў на добры юхт,
Выстараўся наш тата,
Сказаў, што пашые на двух
Боты не для работы,
Юхтовыя, аб назе,
Каб абувалі на свята
Мы з братам удвух па чарзе.**

## ТЫСЯЧАГАДОВАЕ ЦАРСТВА

*Арлену КАШКУРЭВІЧУ*

**Даўно мне рупіць і свідруе мозг
Празорлівасць, з якой Хіеранімус Босх
Тысячагадовае намаляваўшы царства
Не для пацехі, не для марнатраўства,
А ўбачыўшы здалёк і час, і перспектыву,
Каб праз пяць вякоў дзівіліся мы дзіву.**

**Злачынцы мы. Зняважыўшы
жыццё па-боску,
Мы перайначылі яго па Босху.
Цяпер няцяжка кожнаму пераканацца,
Што іншая свой шлях
распачала цывілізацыя,
Дзе ўжо не брату брат і не сям'я,
А найдаражэйшая за ўсіх — свіння.**

**Пасля чарнобыльскае кары,
небяспеку цвелячы,
Хто захапіў спусцелыя лясы
і хаты, і паселішчы,
Усталяваўшыся там на вякі?
Бадзягі, бомжы і дзікі.
Якой пагрозы ім баяцца,
Асцерагацца радыяцыі?**

**У іх свая дзяржава і правадыры,
І дактары, і мастакі — кныры,
Што бавяць час шчаслівы свой
Не з Саскіяй на каленях — са свіннёй.
А госця з космасу — пачвара
Не можа надзівіцца: — Ах, якая пара!**

**Для захавання існавання, Божа,
Уберажы на свеце і дзіка, і бомжа.
Яны апошнія ўжо знаўцы і дарадцы
І першыя гатовыя для нас
на трансплантацыю.**

**Я дзякую дзіку. Яму паклон і гонар.
Ён ратавальнік мой і донар.
Ды як ні слаба б'ецца маё сэрца,
Не са свіным хацеў бы я,
а са сваім памерці.**

**Магчыма, ўсё адновіцца ў прыродзе
У існасці сваёй, але ў якім тысячагоддзі?
Каму вядома тайна да канца?
Нікому, акрамя Тварца.**

*27.10.1993*

●

**Мядзведзь — і той бясконцай ноччу
Ратуецца складаннем вершаў,
Бадзяючыся ад сасны і да сасны
І не знаходзіць сну,
Ні логава,
Ні коўдры.**

**І за зіму не звёўшы вокам,
Перабіраючы за словам слова,
Трапляе ўсё на чорныя радкі
І хоць бы цераз пень-калоду —
Рыфма...**

*9.01.1994*

## ПЯСОЧНЫ ГАДЗІННІК

### ЭЛЕГІЯ

**Не вымагаючы жоднае ніткі,
Каб не ўпікнулі лішняй сарочкай і світкай,
Змоладу строгую ўзяў я праграму:
«Не рабі нікому скідкі,
Ёсць і ў Віткі перажыткі».**

**І, выціскаючы іх, праклятых, па плану
Штодня па зярнятку, па міліграму,
Быў пэўны, усе іх пераж ыву
І да апошняга перажую.**

**І нават калі не ставала чаго ўжо жаваць
Утрыманцу юнай дзяржавы,
Ахоўніцы майго лёсу і права,
Поўнай светлых надзей Беларусі,
Я ўсё яшчэ гнаў і гнаў свой план.**

**Да дзённага фунта хлеба /400 грам/,
І вось на старасці год дзіўлюся,
Як удалося і ёй датрываць,
І душы маёй, што ўжо ледзьве жыва,
Хіба толькі, каб расказаць,
Мае ўнукі і праўнукі, вам.**

**Як змагаўся я з перажыткамі,
Каб іх ува мне не засталося і следу,
Як зацята верыў і ведаў —
Толькі б не спакусіцца набыткамі.**

**Затое цяпер перад вамі гол, як сакол,
А навакола, а навакол
Бушуюць навалай новыя страсці,
Кіпіць барацьба якраз за шчасце,
Якое я карчаваў жыўцом.**

**А яно, ачмурэлае, як перад канцом —
Шалее ігрышчам на папялішчы,
Рагочучы ў вочы таму вестуну:
«Я сябе пад Леніным чышчу!»**

**І я ўжо чысты, як пясчынка з пясчынак,
І жыццё маё, як пясочны гадзіннік,
Дзе скрозь шчыліну — танюткую гарлавіну
Нас час выціскаў за хвілінай хвіліну.**

**Калі зверху ў колбе канчаўся запас,
Парожнюю ён пераварочваў на ніз.
Гэтак і паўшар'і планеты, і нас,
Яднаў ён, адзін —
Камунізм.**

**О, час прапясочаных, нас,
Праверaных і прававерных калісьці!
Мала хто і паверыць цяпер,
Як прагна мы дападалі да ісцін —
І лёгка, і проста,
А галоўнае — напавер:**

**Гані пяцігодку за пяцігодкай
На сто, на паўтараста адсоткаў,
А сам, як гадзіннік пясочны,
Масы трымайся.**

**Хочаш вучыцца —
Вучыся завочна.
Завочна, няўрочна
Кахайся...**

**Не судзіце мяне, мае строгія ўнукі,
І праўнукам дзеля навукі
Раскажыце, як,
уратаваўшыся ад перажыткаў,
Дзед не прыдбаў ні набыткаў і ні прыбыткаў,**

**Адно што пакінуўшы вам
На ўспамінак адзіны
Век свой пражыты —
Разбіты пясочны гадзіннік.**

**Такі яго час і лёс, Васіля,
І жыццё, пражытае Васілём,
Што распачаўшы калісьці з нуля
І завяршыў нулём.**

*29.08.1993*

*З Ухты, цяпер ужо Рэспублікі Комі /а некалі гэта была тая жахлівая Комі — пермяцкая акруга, адкуль, як з таго свету, людзі чакалі — і ў нас дома, па суседзях, таксама — пісем ад сасланых туды сваіх раскулачаных сваякоў/, гэтым летам прыязджаў і спыняўся ў мяне мой колішні аднакласнік. Потым ён яшчэ выклікаў з Ніжняга Ноўгарада свайго сына з унукам, каб ужо з Мінска ўсім разам ехаць на Урэчча. На Урэччы, у вайну, з яго яўрэйскай сям'і загінула шэсць чалавек. І вось цяпер Навум Левін вёз туды сына з унукам, каб пабачылі яны, каб пахадзілі па той зямлі, дзе нарадзіўся іх бацька і дзед, каб усе разам пакланіліся яны неіснуючым магілам сваіх продкаў–пакутнікаў.*

*Да вайны я сама вучылася на Урэччы. І нам з маім школьным таварышам — сярод іншых — успомнілася таксама і гэта, даўно ўжо забытае людзьмі і богам жыцце.*

Алена ВАСІЛЕВІЧ

# ХА́ШКЕЛЭ

МАЛЕНЬКАЕ АПАВЯДАННЕ

Кожны божы дзень, уранку і вечарам, як толькі маецца прыйсці на станцыю пасажырскі цягнік, над мястэчкам разносіцца хрыплы, поўны невыказнай чалавечай роспачы і пакуты, лямант і плач:

— Хашкелэ!.. Хашкелэ!.. Майнэ гутэ тохтарке!..

Лямант гэты асабліва нікога не турбуе і не ўзрушвае ў мястэчку: за пятнаццаць гадоў людзі прывыклі ўжо да яго. І таму кожны ідзе сваёй дарогай, не зважаючы і не шкадуючы. Ат, Рыва крычыць. Дурная Рыўка... Не толькі ў мястэчку — на ўсю акругу няма чалавека, які б не ведаў Рыву з Урэчча. Нават па вёсках дражняцца Рываю, калі адна суседка хоча дапячы другую: «Рыўка ты ўрэцкая!»

А ў мястэчку хлапчукі басота, абы стрэлася яна ім на дарозе, не даюць ёй праходу, з рогатам дражняцца, пацяшаюцца з няшчаснай.

— Рыўка, Рыўка, тваю Хашкелэ парэзалі на кавалкі і зварылі ў катле!..

Рыва з праклёнамі кідаецца за хлапчукамі, шпурляе ўслед ім каменнем і камякамі гразі, заходзіцца хрыплым плачам:

— Каб вы павыдыхалі, байструкі праклятыя! Каб павыдыхалі вашы маткі!

Хлапчукі з рогатам пассыпаюцца ў розныя бакі.

— Рыўка! Рыўка! Твая Хашкелэ...

Пранізлівы асенні вецер ірве на ёй лахманы, ледзяны дождж сячэ босыя ногі, мочыць пасмы сівых валасоў. Рыва спатыкаецца, грэзне і, захліпаючыся ад слёз і холаду, бяжыць на станцыю.

Цягнік прыпыняецца ўсяго на некалькі хвілін. І тут жа нездаволена чмыхае і зноў імчыць далей. Рыва бяжыць услед за цягнікам. Бяжыць да таго часу, пакуль не ўпадзе ад знямогі.

— Аддайце мне маю дачушку!.. Куды вы яе падзелі, жыды праклятыя!..

Паступова крыкі яе слабеюць, глухнуць, пераходзяць у сутаргавы шэпт:

— Хашкелэ... Майнэ гутэ тохтарке...

Потым яна ўстае і ўшчэнт знямажаная, сплаканая, у прыцемку ўжо, паволі цягнецца са станцыі назад у мястэчка.

Чужыя вокны і дзверы чужых цёплых хат не звяртаюць на яе ўвагі. Ім няма да яе клопату.

— Рывэ!.. Ідзі сюды, Рывэ! — чуецца раптам з цемры спагадлівы голас.

І Рыва кіруецца на гэты голас, нясмела пераступае парог, моўчкі забіваецца дзе-небудзь далей, у куток, і, не перастаючы калаціцца, абыякава бярэ з рук гаспадыні кавалак хлеба і кубак гарачай гарбаты. І гэтак ж абыякава, моўчкі вячэрае.

— А дзе Хашкелэ, Рыва, дзе?.. — пытаецца з-за перагародкі малады смяшлівы голас.

Рыва пакідае есці і спакутаванымі вачыма глядзіць на старых гаспадароў: няўжо і тут не дадуць ёй забыць хоць на хвіліну пра свой боль?

— Сёма! Ты сціхнеш, Сёма!.. Еш, Рывэ, еш. Ты сёння ў Кантаровічаў будзеш начаваць?.. Не?.. Ну, дык пераначуй у нас... Іда, а дзе бабчына коўдра, Іда? Якая?.. Ну, тая, што вясной на вышкі выкінулі...

Рыва мосціць пад сябе ў кутку на падлозе зношаную — з вышак — бабчыну коўдру і, агорнутая чужым цяплом, тут жа засынае каменным сном.

Над самым вухам яе нехта смяецца:

— Рывэ! Ты чуеш, Рывэ! Хашкелэ...

І тут жа гнеўны вокліч:

— Сёма! Ты сціхнеш, Сёма?.. Дай ёй спаць, няшчаснай!..

...А дваццаць год назад усе маткі ў мястэчку, якія мелі дачок Рывінага ўзросту, зайздросцілі Рывінай матцы Басі, лічылі яе самай шчаслівай маткай... Бо і праўда: у каго яшчэ была такая дачка, як Рыва?.. Разумніца, гаспадыня! А хараства такога, пэўна, каб свет прайшоў, не знайшоў бы.

Старыя набожныя яўрэі, праводзячы Рыву доўгімі позіркамі, казалі адно ўсяго толькі слова:

— Рывэ?..— і гэта адно слова было красамоўней за цэлую кнігу самых пераканаўчых слоў.

...Усё згубіў тэатр. /Людзі б яго не бачылі!/ Аднойчы, пасля поўдня, усё мястэчка нібы звар'яцела. Расчырванелыя ад хвалявання і цікавасці бегалі з хаты ў хату дзяўчаты. Павольней, чым звычайна, шпацыравалі па вуліцы і высыпалі ўвесь запас местачковага красамоўства і гумару хлопцы. Стараліся адна ў адной выведаць суседкі:

— Чулі?

— Ну, чулі...

— Тэатр, кажуць...

— Няхай будзе тэатр...

І сапраўды ў гэты ж самы дзень якраз насупраць хаты каваля Хаіма, дзе кожную нядзелю было не прабіцца за сялянскімі вазамі, на кірмашовай пляцоўцы, пачаў спешна будавацца з фанеры і аблезлых шырмаў тэатр. Сама кавалёва хата — каму б гэта калі прыснілася — таксама ператварылася ў тэатр. У двух невялікіх пакойчыках запахла раптам прыпаленымі валасамі, пудрай, чужой адзежай. Голасна і на ўсю хату гаварылі ўсе разам: і непрыгожая грубая жанчына ў ружовым гарсэце з папяровымі кветкамі ў валасах, і стары мужчына з чырвоным носам у рыжым, як агонь, парыку. Смяялася і плакала адначасова маладзенькая дзяўчына перад люстэркам, у якой на светлай кучаравай галаве ніяк не хацелі трымацца нечыя чужыя чорныя косы.

Усёй гэтай істэрычнай мітусні вандроўных артыстаў кавалёва хата прадавала сябе за два рублі... А дзе яны валяліся на дарозе, тыя два рублі?

Няхай сабе паплачуць і пасмяюцца. Няхай сабе адзін вечар пагрукаюць дзвярыма... Так разважаў сам з сабою каваль Хаім. Бася-жонка была з ім згодная: няхай пагрукаюць /«бальшое дзела!»/.

У гэтым дзівосным кагале не прымаў удзелу і здаваўся староннім адзін толькі чалавек. Высокі і худы, з белым, як сцяна, тварам, ён сядзеў на зэдліку, апрануты каралём, і толькі курыў танныя цыгарэты.

Кавалёва дачка Рыва ўсяго адзін толькі раз стрэлася з яго агністым позіркам. І больш ужо не здолела прымусіць сябе паглядзець на яго. А ён курыў і маўчаў...

Потым, калі пачалося прадстаўленне, у яе ледзь вытрымала сэрца... Як толькі не кінулася яна на сцэну, каб разарваць сваімі дзявочымі рукамі тыя жалезныя ланцугі, якімі скаваў яго тэатральны лёс, каб упасці перад ім на калені і цалаваць яму рукі... Гэтакі ён быў на той грубай дашчанай сцэне няшчасны і прыгожы!

І не толькі ў яе аднае разрывалася сэрца — усё мястэчка плакала над ім, закаваным у ланцугі і кінутым у камяніцу.

...А калі ўсё скончылася і ўслед за воплескамі на сцэну пасыпаліся кветкі /у іх мястэчку таксама былі людзі, якія ўмелі паказаць, што і яны не лыкам шытыя!/, ён велічна, па-каралеўску ўсім кланяўся і ўсміхаўся. Рыве здавалася, што ён усміхаўся толькі ёй...

...Яму не давялося шукаць яе. Непатрэбна было ўгаворваць. Ён толькі ўзяў яе за руку. І яна, ні слова не кажучы, пакінула ў тую цёмную ноч скрыпучыя прыступкі бацькоўскага парога і, не развітаўшыся нават з маткай, пайшла за ім насустрач сваёй долі.

Бацькі праклялі яе і загадалі сабе забыць яе імя.

...А праз год, халодная і знябытая, гэтакай жа цёмнай ноччу яна пастукала да іх у дзверы... І маці не пыталася — сэрцам адчула, што гэта яна, — адчыніла дзверы і ўпусціла блудную дачку ў хату. Нейкі дзіўны брудны скрутак у дачкі на руках абазваўся на ўсю хату:

— Уга!..

...Каралеўскага кахання хапіла ненадоўга. Цяпер Рыва ўсё збівалася і ўсё ніяк не магла ўспомніць, адкуль яна вярнулася ў бацькаву хату. Не магла ўспомніць і не пазнавала і гэтае самае хаты, дзе яна нарадзілася і вырасла... Не пазнавала роднае дачкі цяпер і маці. Рыва пачала баяцца чужых людзей і, каб не страчацца з імі, сядзе на вышках. І дзіця трымала пры сабе цэлымі днямі. Злазіла ў хату толькі есці і спаць. Дзяўчынцы было ўжо гадоў пяць, а яна ўсё карміла яе грудзьмі і ні на крок не адпускала ад сябе...

І немагчыма было ўгаварыць яе ці нешта растлумачыць. Рыва толькі неяк дзіка пасміхалася і мацней абшчэплівала рукамі дзяўчынку, штосілы прыціскала яе да сваіх высахлых грудзей. Баялася, каб у яе не адабралі яе дзіця. Нават роднай мацеры не давала яна патрымаць на руках сваю Хашкелэ. І на маці злавалася і штосілы адмахвалася рукамі. Маці, як і няшчасная яе дачка, ад невыноснага гора толькі чарнела і сохла, не ведаючы, дзе шукаць паратунак, якую даць раду.

І рада ўсё ж знайшлася.

Сваякі ўкралі ў яе дзіця і звезлі яго цягніком у горад, дзе жыла нейкая бяздзетная іх радня.

...Рыва прыбегла тады на станцыю пасля другога званка. Яна паспела яшчэ ўбачыць у акне зялёнага вагона любую чарнявую кучаравую галоўку...

...З таго часу прайшло пятнаццаць гадоў і яна не мінала ніводнага пасажырскага цягніка — кожную раніцу і кожны вечар бегла яна на станцыю з надзеяй затрымаць яго і адабраць у тых праклятых людзей сваю дачушку.

— Хашкелэ!.. Хашкелэ!.. Майнэ гутэ тохтарке!..

За пятнаццаць гадоў людзі прывыклі да яе слёз і ляманту, і цяпер ён ужо нікога не турбаваў, не ўзрушваў. Кожны ішоў сваёй дарогай, не зважаючы і не шкадуючы...

Ат, Рыва крычыць. Дурная Рыўка...

...Гарачым летнім ранкам сорак першага года ў напрамку да лесу, што пачынаўся адразу ж за чыгункай, рухаўся з мястэчка стракаты натоўп людзей. Паабапал натоўпу з аўтаматамі на грудзях, з аўчаркамі на шворках паспяшалі нямецкія салдаты. Людзям загадана было ўзяць з сабою толькі самыя каштоўныя рэчы, але і яны абцяжарвалі хаду і стрымлівалі рух — у натоўпе ішлі маладыя мужчыны і жанкі, ішлі людзі сталага веку, а сярод іх і зусім белагаловыя старыя і малыя дзеці.

— Шнэль! Шнэль! — падганяла знямажаных людзей раз'юшаная каманда.

— Божа! Даруй ім, яны не ведаюць, што твораць... — узносілася ў неба кволае старэчае маленне.

Лес быў ужо зусім блізка, і людзі ведалі, што чакае і што стрэне іх у гэтым лесе.

— Шнэль! Шнэль!

— Божа, наш божа... Чаму ты пакінуў нас?.. — стагнаў натоўп.

А лес усё набліжаўся... Набліжаўся... Брэх сабак і салдацкія каманды ўсё звярэлі.

— Шнэль! Шнэль!

...У гэты час пачуўся свісток паравоза і з боку станцыі паказаліся зялёныя пасажырскія вагоны звычнага ранішняга цягніка. Людзі рухаліся па пясчанай дарозе ўздоўж чыгункі, і калі цягнік параўняўся з імі, з натоўпу раптам вырвалася ўскалмачаная, сівая, у рыззі жанчына. Натоўп знямела глядзеў ёй услед. З працягнутымі рукамі жанчына рвалася дагнаць зялёныя вагоны.

— Хашкелэ! Майнэ гутэ тохтарке!.. — кінулася яна наперарэз цягніку.

Грымнула аўтаматная чарга, жанчына спатыкнулася і, як падстрэленая птушка, з распасцёртымі рукамі ўткнулася тварам у гарачы пясок.

— Хашкелэ... Майнэ...



*Мал. У.СКРЫГАНАВА*

твой боль», «Праз могілкі» і «Прыгоды Бураціна», «Двое на востраве слёз» і «Мяне клічуць Арлекіна»? Ці можна ўвогуле пры такой трактоўцы весці гаворку пра нацыянальнае кіно? Крытыкі шмат, часам несправядлівай. Зараз настае такі перыяд, калі большасць кінематаграфістаў, пакінуўшы спрэчкі, імкнуцца агульнымі намаганнямі адрадзіць беларускае кіно. Нават такі дробны факт, як аднаўленне на студыі штотыднёвых праглядаў лепшых айчынных і замежных карцін, ужо дазволіў сабраць усіх кінематаграфістаў пад адным дахам «Беларусьфільма» хоць бы /пакуль/ для творчых гутарак. Хоць таленавітая, шчырая творчасць заўсёды падпадала пад крытыку. Асабліва калі яна праўдзіва і годна ацэньвала падзеі, што паказваюцца з экрана. Але... Кажуць, ніхто не ведае, дзе праўда, затое ўсе ведаюць, дзе хлусня...

**— У чым вы бачыце непасрэдную дапамогу кінематографа ў справе далейшага развіцця нацыянальнай культуры?**

— Бачыце, амерыканскі лад жыцця сцвярджаецца ў кожнай, нават самай пасрэднай галівудскай кінастужцы. Чаму ж мы не ідзём тым самым шляхам? Сцвярджаць свой, беларускі, традыцыйны лад жыцця мы таксама можам у кожнай кінастужцы, у тым ліку — і ў камерцыйнай. І зусім неабавязкова, каб гэта зноў быў фальклор, саломапляценне альбо строі мінулага стагоддзя. Не толькі ж наша мінулае багацейшае за амерыканскае, але і сучаснасць цікавая. /Успомніце, як атрымалі прызнанне знаныя «Песняры».../ Чаму ж мы ў сваіх кінастужках хутчэй пакажам замежную спявачку, чым, напрыклад, нашу Юлію Скараход? Другі прыклад: мы з захапленнем глядзім /я маю на ўвазе звычайнага кінагледача/ на барацьбу розных ніндзяў і майстроў кунг-фу, забыўшыся, што нашае самба карысталася поспехам, ды і сёння карыстаецца, ва ўсім свеце. Самба — славянскае слова — «сама-абарона». Амаль кожны станоўчы амерыканскі персанаж сядзіць ці то пад амерыканскім сцягам, ці то пад партрэтам Вашынгтона. Ні ў адной нашай карціне не ўбачыш выявы Янкі Купалы ці партрэта Уладзіміра Караткевіча. Мы быццам саромеемся ўсяго гэтага. А глядач жа наш, беларускі! Дайсці да свайго гледача! — вось адна з першачарговых і галоўных задач.

**— Вы знялі шэраг фільмаў на нацыянальным матэрыяле, звяртаючыся да творчасці Янкі Купалы, Андрэя Макаёнка, Уладзіміра Караткевіча; вядомы і вашы дакументальныя кінастужкі, прысвечаныя беларускай культуры і яе лепшым прадстаўнікам. А цяпер, калі сталі кіраўніком, ці будзеце вы самі здымаць?**

— Прымаючы прапанову на пасаду дырэктара кінастудыі, я пакінуў за сабой права займацца і асноўнай сваёй прафесіяй — рэжысурай, без якой проста не ўяўляю сябе. Але цяпер, на жаль, гэта амаль немагчыма. Планы ёсць, а вось часу на іх рэалізацыю бракуе. Перадусім трэба наладзіць занядбаную кінавытворчасць, аб'яднаць усе лепшыя творчыя сілы. А потым пабачым...

мусяць аздабляць яе і эмацыйна, і эстэтычна.

Аднак нельга пакінуць без увагі такія новаўводзіны, якія прыводзяць да недарэчнасцей. На першы погляд, знікненне з п'есы двух персанажаў, малых дзяцей Зяблікаў, Аленкі і Юркі, нічога не мяняе. На жаль, у далейшым, калі ўдава Марыля галосіць над будучыняй сваіх «маленькіх» дзетак, сітуацыя рызыкуе зрабіцца камічнай.

Разумею цяжкое фінансавае становішча тэатра. Не падымаецца рука пісаць аб прымітыўнай гукавой і візуальнай афарбоўцы пастаноўкі. І ўсё ж, думаецца, што беларуская музычная спадчына здольная даць больш тэм для афарбоўкі народнага жыцця напярэдадні тых святаў, на фоне якіх разгортваюцца падзеі «Раскіданага гнязда».

На завяршэнне хацелася б выказаць пажаданне, каб майстры са сталіцы з большай адказнасцю ставіліся да часовай працы на перыферыі. Ад гэтага залежыць прафесійны ўзровень тэатра, гэтым выхоўваецца густ у гледача.

**Ала МАЛЬШЭЎСКАЯ**

*г. Маладзечна*

Музыка

# ...І РАЯЛЬ ПА ЗАКАЗЕ

Вось гэта, відаць, і называецца: «творчы ўзлёт». Бо напачатку дарога была як дарога: вучыцца Юзік пачаў, паводле музыканцкіх мерак, позна — гадоў з васьмі. Хадзіў у дзіцячую музычную школу імя М. Аладава, у клас Наталлі Васільеўны Маёравай. Потым паступіў у ліцэй, да вядомага педагога Наталлі Іванаўны Ташчылінай.

Праз год пяройдзе ў выпускны клас. Пяройдзе... на крылах?

Увогуле-то параўноўваць карпатлівую, цяжкую, «чорную» працу музыканта з палётам не выпадае. І ўсё ж... Летась ўвесну Юзік Сяргей атрымаў 1-ю прэмію на конкурсе юных піяністаў імя Шапэна ў Польшчы. Пасля гэтага прыйшло асабістае запрашэнне ад удавы славутага піяніста Артура Рубінштэйна пані Анэлі — удзельнічаць у І Міжнародным конкурсе яго імя.

Восень, Быдгашч, конкурс, на які сабралася 38 удзельнікаў з Арменіі, Балгарыі, Аўстраліі, ЗША, Расіі, Японіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Украіны, Чылі, Ізраіля, Польшчы, Беларусі... Вынікі: масквічка В. Ягошына — 1 прэмія, польская піяністка Б. Бялінска — 2 прэмія, беларускі музыкант І. Сяргей — 3 прэмія.

Юзік іграў на конкурсе Санату Моцарта Рэ мажор, эцюды Ліста ды Шапэна, яго ж мазуркі ды 4-ю баладу, «Серэнаду Дон Жуана» Шыманоўскага з цыкла «Маскі», «Вандроўніка» Шуберта. З аркестрам — Мі мінорны канцэрт Шапэна. Людзям дасведчаным зразумела, наколькі гэта складана і наколькі напружаная праца пачалася адразу пасля конкурсу, калі імя «Іосіф Сяргей» літаральна пракацілася па афішных стэндах ды газетных абвестках: 9 канцэртаў у пяці польскіх гарадах давялося сыграць маладому піяністу! З рознымі аркестрамі, з рознымі дырыжорамі. Агульную мову з імі саліст знаходзіў не толькі праз музыку: ён настолькі добра валодае польскай, што нават даваў інтэрв'ю ў «жывым» радыёэфіры і меў гутарку з аднагодкамі ў адным з польскіх музычных ліцэяў.






*Юзік СЯРГЕЙ на конкурснай сцэне — і дома...*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА і з асабістага архіва піяніста.*

Адзіны з усіх пераможцаў, І. Сяргей атрымаў прыз самай яркай індывідуальнасці конкурсу — гэта ўзнагарода мае імя Артура Рубінштэйна і была вызначана для Юзіка самой пані Анэляй, 85-гадовай музыканткай. Яшчэ адна буйная ўзнагарода — т. зв. Шапэнаўская — дае І. Сяргею магчымасць /таксама адзінаму з усіх спаборнікаў/ выступіць з канцэртамі ў Варшаве, у Лазенках, а таксама ў Жэлязовай Волі. Гэта — ангажэмент на лета 94-га. Тады ж мае адбыцца і падзея ў Зальцбургу, на радзіме Моцарта: адкрыццё канцэртнай залы, куды запрошаны выступіць наш Юзік.

У студзені ён зноў паедзе ў турнэ па польскіх гарадах. Калі будзе канцэрт у родным Мінску — пакуль невядома. Жыццё філарманічнае плануецца загадзя, без уліку мажлівых творчых перамог нашых маладых музыкантаў. Міжнародны лаўрэат І. Сяргей чакае сваёй чаргі на выступленне «дома». І чакае — мо з большай і радаснай нецярплівасцю — вялікай пасылкі з-за мяжы: рашэннем журы рубінштэйнаўскага конкурсу фірма «Галіцыя» выконвае заказ для беларускага піяніста. У хуткім часе Іосіф Сяргей атрымае новы раяль...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# «НАДЗЕЯ» ЖЫВЕ!

***У снежні мінулага года ў Гродне адбыўся другі конкурс юных кампазітараў «Надзея-93», прысвечаны Максіму Багдановічу.***

Гродзенцы трымаюць сваё слова і ўпэўненыя, што конкурс будзе традыцыйным і што ён пашырыць свае межы — і творчыя, і геаграфічныя. Ужо на гэты конкурс прыехалі дзеці з тых мясцін, якія ведалі Максіма: Яраслаўля, Ніжняга Ноўгарада, а таксама з Маскоўскага музычнага ліцэя пры кансерваторыі.

Для ўдзельнікаў конкурсу, выканаўцаў, настаўнікаў Гродзенскім абласным фондам культуры, упраўленнем культуры аблвыканкама пры садзейнічанні гарадскіх аддзяленняў Дзіцячага фонду і Саюза моладзі Беларусі, шматлікімі спонсарамі былі падрыхтаваныя і прызы і годныя грашовыя прэміі, прыгожыя памятныя медалі і дыпломы, карысныя і каштоўныя падарункі. Гаспадары паклапаціліся пра размяшчэнне гасцей і харчаванне. Словам, было зроблена ўсё магчымае, каб надаць творчаму спаборніцтву прадстаўнічы характар, стварыць атмасферу добразычлівасці, гасціннасці і свята.

Дзеля гэтай падзеі ў былы тэатр Тызенгауза /цяпер — тэатр лялек/ нават быў прывезены раяль, бо, вядома, для цяперашняга гаспадара гэтага цудоўнага і ўтульнага памяшкання раяль — нябачаная раскоша. Ён усё ж дадаў урачыстасці канцэрту пераможцаў, якіх горача віталі бацькі й настаўнікі, члены журы і юныя калегі.

Не па-дзіцячы сур'ёзнымі, загартаванымі ў творчых турнірах выглядалі вучні дацэнта Маскоўскай кансерваторыі Таццяны Чудавай: Фёдар Аміраў, Антон Чудаў, Андрэй Камісараў. Не выглядалі пачаткоўцамі й наўгародцы: Дзмітрый Тарошын і Аляксей Фядотаў, шчыраю і непасрэднаю паказалася госця з Яраслаўля Аня Байкова.

Яны выявілі высокі ўзровень адукаванасці, мастацкай асэнсаванасці, шчырага чалавечага спачування.

І ўсё ж прыезд далёкіх сяброў з'ява хоць і радасная, але хутчэй фестывальная, чым конкурсная. Нас больш цікавіў стан развіцця творчых здольнасцей дзетак з Беларусі. І яны нас вельмі парадавалі!

Трыццаць чалавек змагаліся за перамогу ў трох узроставых групах. Большасць з іх займаецца кампазіцыяй па сваім уласным парыванні з настаўнікамі-энтузіястамі, а часам і самастойна.

Лепшымі ў малодшай групе названы Аляксандра Барсукова са Слоніма /клас В. Вогневай/, Сяргей Ярылін з Гродна /кл. Т. Баравік/, Аркадзь Чубрык з Мінска /кл. В. Карэтнікава/.

У сярэдняй групе ў шчыльную кампанію спрактыкаваных гасцей трапіла Валерыя Янкоўская з Ваўкавыска /кл. В. Радзіёнава/. Акрамя дыплома, ёй была ўручана і творчая стыпендыя.

Высокай была цана перамогі ў старэйшай групе, бо яна дае пэўныя льготы пераможцу пры паступленні ў Акадэмію музыкі. І хоць многім яшчэ ранавата пра гэта думаць, журы было, бадай, больш строгім, чым прыёмная камісія. Безумоўным лідэрам тут была дзесяцікласніца Рэспубліканскага музычнага ліцэя Алена Андрыяш, якая паказала імклівы творчы рост, добры мастацкі густ і высокую выканаўчую культуру. Да поспеху яе прывёў вопытны педагог і кампазітар Валерый Карэтнікаў.

Яскрава раскрыліся таленты Таісы Халамавай /кл. Ш. Ісхакбаевай/ і Таццяны Багданавай /кл. В. Карэтнікава/ у творах, прысвечаных Максіму Багдановічу. Яны ўразілі глыбінёй пачуццяў, чысцінёй музычнай інтанацыі, цудоўным адчуваннем свету паэзіі і ў творах для скрыпкі, і ў рамансах на вершы Паэта.

Поспеху ўладальніцы трэцяй прэміі, студэнткі музвучылішча з Маладзечна Настассі Барбарчук спрыяла дружная падтрымка аднакурснікаў, якія хорам /кіраўнік Л. Камінская/ выканалі яе даволі спрытныя харавыя апрацоўкі.

Не пакінуў журы абыякавым і выпускнік Лідскага музычнага вучылішча Сяргей Ларыёнаў. Ён паказаў прыгожы раманс «Падаюць вішняў цвяты», але ў п'есах для струннага квартэта яму бракавала тэхнікі і арыгінальнай ідэі. У выніку — трэцяе месца і пажаданне ўдасканальваць сваё майстэрства ў Акадэміі музыкі.

Зусім блізка да пераможных вышынь былі Лена Суворава і Іна Атрашонак /Мінск/, Уладзімір Майсюк /Баранавічы/, Лена Лейбіна /Маладзечна/, Лена Зачапілава /Гомель/, Света Паўловіч /Шчучын/, Вольга Бяжака і Жэня Трубнікава /Гродна/. Усе яны атрымалі заахвочвальныя прэміі й дыпломы.

Былі, напэўна, не толькі радасць, але й слёзы ўпотайкі. Але ж гэта непазбежна. Каб стаць прафесіяналам у любой справе, трэба перажыць хвіліны натхнення і адчаю, зведаць асалоду і пакуты творчай працы, радасць прызнання і горыч неразумення.

Шчаслівейшай за ўсіх была, канешне, адзінаццацігадовая выхаванка Віталя Канстанцінавіча Радзіёнава Дзінара Мазітава з Ліды, якой пашанцавала пачуць у выкананні дарослых спевакоў сваю оперу «Кветкі пад лівнем». Таленавітай дзяўчынцы ўдалося выпісаць яркія, запамінальныя і музычна багатыя вобразы Садоўніка /М. Булыга/, Гандляра /М. Жылюк/, Праменьчыка /А. Казанцава/, кветачак, якіх праспявалі студэнткі Лідскага музычнага вучылішча /кіраўнік Б. Двілянская, канцэртмайстар Л. Булыга/.

Каб ацаніць гэтую работу, дазволю сабе такое меркаванне: не кожны выпускнік Акадэміі музыкі змог бы сёння на гэткім жа ўзроўні адолець прапанаваны драматургічны матэрыял. Малайчына, Дзінара! Жадаю табе шчаслівага кампазітарскага лёсу!

Такое ж пажаданне адрасуюць усім удзельнікам конкурсу яго добрыя і руплівыя гаспадыні, члены аргкамітэта Надзея Трухановіч і Валянціна Мядзведзева, спонсары — фірма «Спарыш» /Гродна/, Прамбудбанк, Прыорбанк, Беларускі фонд культуры, якія ўжо сёння распачынаюць падрыхтоўку да наступнага фестывалю і конкурсу «Надзея-94» і будуць гасцінна вітаць усіх у старажытным, прыветным горадзе над Нёманам. Шчаслівага жыцця табе, конкурс, — надзея творчых, узнёслых, юных паэтычных душ!

**Віктар ВОЙЦІК,**
**старшыня журы конкурсу «Надзея-93», кампазітар**

## КАНСТАНЦІНУ КВАЧАНТЫРАДЗЕ — 60

**Ёсць у беларусаў у Грузіі добры сябра — літаратуразнаўца, даследчык грузінска-беларускіх літаратурных сувязяў Канстанцін Квачантырадзе. На яго творчым рахунку — артыкулы «Руставелі ў беларускай літаратуры», «Беларускі раман пра Грузію» /пра раман Э.Самуйлёнка «Будучыня»/, «З гісторыі літаратурных сувязяў грузінскага і беларускага народаў», «Пытанні грузінска-беларускіх літаратурных сувязей на старонках грузінскіх беларускіх газет і часопісаў», «Янка Лучына — аўтар першага беларускага верша пра Грузію»...**

**Віншуем Канстанціна Канстанцінавіча з юбілеем, зычым яму далейшых творчых поспехаў на ніве літаратурнага пабрацімства!**

## САПРАЎДНЫ МЕЦЭНАТ



**За год дзейнасці прыватнай галерэі «Рыса», якая працуе дзякуючы фундатарству Полацкага камбіната будаўнічых матэрыялаў, у Полацку прайшло некалькі цікавых, арыгінальных выставаў. Напярэдадні Каляд галерэя наладзіла агульную выставу мастакоў Полацка і Наваполацка. Кожны ўдзельнік меў магчымасць прынесці і сам павесіць дзве свае працы.**

**Кагал у мастакоўскім асяроддзі — трохі небяспечная з'ява, а калі да таго ж ён яшчэ і пушчаны на самапас... Арганізатары выставы — Сяргей Цімохаў, Аляксандр Канавалаў і Ларыса Лысенка — разлічвалі на вясёлы калядны бязлад, словам, трэба ж некалі і пажартаваць. Але ўсе аднесліся да мерапрыемства надзвычай сур'ёзна,з павагай да сябе і гаспадароў. Жартаўлівы тон выставе хіба што надаў перформенс, некалькі кампазіцый якога ў адных выклікалі непаразуменне, а другіх і абурылі: «Чаго тут валяецца рознае ламачча!» А большасць яшчэ раз пераканаліся ў тым, што дзейнасць прыватнай Полацкай галерэі «Рыса» заслугоўвае самай сур'ёзнай павагі, як і матэрыяльная падтрымка мастакоў дырэктарам КБМ. Адзін наведвальнік у часе адкрыцця выставы сказаў: «Але ж і дзіўны гэты Цялежнікаў!»**

**Чаму ж дзіўны? Якраз сапраўдны мецэнат, няхай і дзяржаўнага маштабу.**

**І. СТУДЗЕНЬСКАЯ**

*На здымку: кампазіцыя з лесвіцай Сяргея Цімохава і Аляксандр Канавалава.*

*Фота Э. ЦЯРЭЎСКАГА*

## ПАД НОВАЙ ЭМБЛЕМАЙ

**у Полацкай друкарні выйшаў у свет чацвёрты нумар літаратурнага альманаха «Ксэракс беларускі». Гэтам разам выданне мае на вокладцы эмблему Таварыства вольных літаратараў. Аднак у альманаху надрукаваны не толькі іх творы, але і В. Аксак, П. Ламана, Л. Сільновай. Увогуле, значна пашырылася кола аўтараў «КБ»: С. Шыдлоўскі, С. Патаранскі, К. Гаманец, С. Адамовіч. У альманаху таксама можна прачытаць творы Ю. Гуменюка, А. Аркуша, І. Сідарука. Вокладку намалявала Н. Анцімонава. «Ксэракс беларускі», N 4 выдадзены з дапамогай Полацкага дзяржаўнага універсітэта.**

**А. К.**

# УСЁ ГЛЫБЕЙ У ГРАЗЬ...

*(Пачатак на стар. 5)*

**сацыялістычную Расію** — НА РАЗВЯЗВАННЕ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ! Няўхільнае ажыццяўленне гэтай ленінскай палітыкі прывяло да трагедыі 1939—1945 гадоў. Праўда, сцэнарый вайны пісалі ўжо не паслядоўнікі Леніна, а Гітлер.

Але пра ўсё па парадку. У перыяд грамадзянскай вайны ўся прапаганда трызніла сусветнай рэвалюцыяй. Свяшчэннай задачы падрыхтоўкі яе была падпарадкавана ўся палітыка партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва ў 20—30-я гады. Краіна ліхаманкава стварала ваенны патэнцыял не толькі для таго, каб бараніцца ад ненажэрных акул імперыялізму, але і каб даканаць той капіталізм, які гніўзагніваў, але самастойна ніяк дагніць не даў рады:

**Капіталізм азыз**
**і саслаб**
**Саслаб**
**і ў гісторыі на шляху**
**лёг**
**у свет,**
**як у ложак свой,**
**спачываць.**
**І не аб'ехаць,**
**не абысці бярлог,**
**адзінае выйсце —**
**ўзарваць!**

*/Маякоўскі У. Уладзімір Ільіч Ленін. Пераклад П. Броўкі/.*

Вядома, для Краіны Саветаў ідэальна было б, калі б той азызлы і аслаблы капіталізм канчаткова зразумеў і ўсвядоміў сваю асуджанасць і добраахвотна ўступіў месца больш высокай і дасканалай сацыялістычнай фармацыі. У адпаведнасці з непарушнымі законамі дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму. Але кіраўнікі заходніх дзяржаў не паспелі засвоіць адзіна правільную тэорыю развіцця грамадства і не захацелі дзейнічаць паводле прынцыпу: калі цябе стукнулі па адной шчацэ, то хутчэй падстаўляй другую. Словам, не спяшаліся яны пускаць да сябе бальшавікоў, каб тыя праводзілі сусветную калектывізацыю і глабальную чыстку шкодных і ненадзейных элементаў.

І калі на палітычнай арэне з'явіўся Гітлер з ягонай антыбальшавіцкай праграмай, з гістарычна-стратэгічнай місіяй Drang nach Osten і заваявання для арыйскае расы Lebensraum на Усходзе, то ўрады заходніх дзяржаў адразу ж стварылі яму рэжым найбольшага спрыяння для ўмацавання мілітарнай і эканамічнай магутнасці трэцяга рэйха. Яны знялі ўсе абмежаванні, накладзеныя на Германію пасля першай сусветнай вайны. Нават аншлюс з Аўстрыяй не выклікаў у іх жаху, а яшчэ Гітлеру дапамаглі праглынуць Чэхаславакію з яе вялікім эканамічным патэнцыялам, ультыматыўна патрабаваўшы ад яе поўнай капітуляцыі перад дамаганнямі Германіі. У выніку Чэхаславакія перастала існаваць як самастойная дзяржава.

Магу паўтарыць: падзеі ў Еўропе ў другой палавіне 30— пачатку 40-х гадоў /да бітвы пад Масквою/ разгортваліся паводле сцэнарыя, геніяльна распрацаванага ў Берліне. І таму калі вермахт 1 верасня 1939 г. з захаду, поўдня і поўначы рушыў на Польшчу, то Францыя і Англія, хоць і аб'явілі вайну Германіі, але ніколькі не перашкаджалі распраўляцца са сваёй саюзніцай на ўсходзе, каб ужо ніякая паласа не аддзяляла вермахт ад Чырвонай Арміі. Гітлераўцы далі рады абдурыць усіх: Сталіна, Чэмберлена, Даладзье, урад даваеннай Польшчы /пры дапамозе якой не так даўно дзялілі Чэхаславакію/.

Аднак французам і англічанам не ўдалося адсядзецца за славутай непераадольнай «лініяй Мажыно», каб потым, абапіраючыся на свежыя, некранутыя сілы, дыктаваць свае ўмовы абяскроўленым праціўнікам. Перш чым кінуцца на савецкую Расію, Германія забяспечыла свой тыл на захадзе, абышоўшы тую «лінію» з поўначы.

## III

НАС ДОЎГА І НАДЗЕЙНА ВУЧЫЛІ, што развіццём грамадства кіруюць матэрыялістычныя законы. Іх сутнасць найбольш дакладна для эпохі імперыялізму як вышэйшай і апошняй стадыі капіталізму расшыфраваў і да дна спасціг Ленін. Ён даказаў, што чалавецтва прыйдзе да ўсеагульнага камуністычнага шчасця праз перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі ў адной асобна ўзятай краіне, а тая абавязана будзе вызваліць пралетарыяў усяго свету. Калі спатрэбіцца, то выкарыстае дзеля гэтага сілу. Так ці інакш паратунак працоўнага чалавецтва — у сусветнай вайне.

Але здарылася так, што ініцыятыву па часці вайны перахапіла гітлераўская Германія, якая выступала пад сцягам нацыянал-сацыялізму. Таксама чырвонага колеру, толькі са свастыкай. Яна зблытала ўсе карты. І таму не ўдалося выратаваць за адным махам пралетарыяў усіх краін. Сацыялістычнай стала толькі трэцяя частка зямлі. То там, то сям, аднак, зараджалася надзея на трыумф ленінскай справы. Але раптам гісторыя збунтавалася супраць матэрыялістычных законаў. А ўсе народы, якія да нядаўняга часу ўтваралі «саюз непарушны рэспублік свабодных», пачалі ад ленінскага сацыялізму адхрышчвацца пры дапамозе свянцонай вады і ўзяліся ўрассыпную адмольваць свае грахі.

Катастрафальным для лёсу сацыялістычнага эксперыменту ў Расіі, як асобна ўзятай краіне, аказаўся сам характар дзяржаўнага ладу, створанага Леніным. Без самадзяржаўя і абсалютызму, без таталітарнага заахвочвання бізуном нельга было б прымусіць народ выжыльвацца дзеля фантастычнай мэты сусветнага бальшавіцкага панавання. Для ажыццяўлення ленінскай ідэі экспарту рэвалюцыі спатрэбілася ўзведзеная ў абсалютны закон ідэя — таксама ленінская — дыктатуры так званага пралетарыяту, ад імя якога дзейнічала то палітбюро, то нават і адна асоба. Бальшавіцкая сістэма давала правадыру партыі такую ўладу, што ён мог сабе дазволіць ліквідаваць сялянства як клас, беспакарана вынішчаць найбольш дзеяздольныя кадры, выганяць з родных месц цэлыя народы.

Калі б генеральнага сакратара — шляхам сапраўды дэмакратычнага тайнага галасавання, з непахісным правам крытыкі — выбірала ўся партыя, то ці сядзелі б на сваіх месцах Сталін, Хрушчоў, Брэжнеў, Чарненка, Гарбачоў, які ў той час, калі «перастройка» моцна пачала буксаваць, вучыў нас, што коней на пераправе не мяняюць? Але радавыя члены партыі яму як генсеку і грамадзяне СССР — як прэзідэнту — не мелі ўзаконенай магчымасці сказаць, што коней то, можа, і не варта, але бездапаможныя фурманы хай бы перадавалі лейцы камусьці больш кампетэнтнаму.

Капіталізм як сістэма таму нанёс сацыялізму ў халоднай вайне сакрушальнае паражэнне, што там дзяржаўнае кіраўніцтва ўвесь час знаходзілася пад кантролем народаў, увесь час абнаўлялася за кошт вылучэння найбольш здольных людзей. А ў нас кіраўнікі найвышэйшага ўзроўню дагнівалі на сваіх пасадах. Разам з імі дагніваў і сацыялізм, які так і не паспеў расквітнець.

Уявім сабе на хвілінку нешта фантастычнае: сама партыя выбірала б кіраўнікоў усіх ступеняў — ад райкомаўскіх да ЦК, а народ — у сваю чаргу — параўноўваў бы праграмы бальшавікоў, меншавікоў, эсэраў, сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў. Інакш кажучы, што ўсе гэтыя партыі разгарнулі б сацыялістычнае спаборніцтва сваіх ідэалогій, выстаўляючы іх на суд народа. Толькі ў такім выпадку сацыялізм паказаў бы ўсе свае магчымасці. Такога, аднак, не мог дазволіць ні Ленін, ні ягоныя верныя паслядоўнікі. Нездарма ж стваральнік бальшавіцкай партыі настойліва папярэджваў і падкрэсліваў: «Так, мы гаварылі і гаворым увесь час у сваёй праграме, у партыйнай праграме, што мы сябе ашукаць такімі вельмі прыгожа гучнымі лозунгамі, як свабода, роўнасць і воля большасці, не дадзім...» /Ленін У. І. ЗТ у 10 тамах, т. 8, с. 531/.

Ленінска-сталінская мадэль дзяржаўнага ўладкавання заціснула ініцыятыву кожнага асобна ўзятага чалавека ў надзейныя аковы, утварыўшы для гэтага адпаведныя разгалінаваныя структуры. І тут зусім правільна засведчыў Маякоўскі, хоць не тое ён думаў, што атрымалася:

**Адзінка!**
**Каму патрэбна яна?!**
**Голас адзінкі**
**танклявей**
**ад піску.**
**Хто ўчуе яе? —**
**Хіба жонка адна!**
**І то,**
**калі не на рынку,**
**а зблізку.**
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
**Адзінка — нуль,**
**глупства адно...**

*/Пераклад П. Броўкі/*

## IV

Запушчаны Леніным ідэйны механізм ператварыўся ў такую матэрыяльную сілу, у такую сакрушальную стыхію, якая імчалася напралом, давячы і разбураючы на сваёй дарозе не толькі стары, але і новы лад, што пачынаў усталёўвацца ў краіне пасля грамадзянскай вайны, — налятаючы ўсё новымі шкваламі, смерчамі, тайфунамі. Такія палітычныя цунамі, як калектывізацыя або рэпрэсіі 30-х гадоў, былі запраграміраваны яшчэ ў ленінскіх працах.

Возьмем калектывізацыю. Вядома, кааператыўны план прадугледжваў мірны працэс, разлічаны на многія гады. Але наогул бязлітасную вайну з сялянствам пачаў Ленін. 7 красавіка 1920 года на III Усерасійскім з'ездзе прафсаюзаў ён гаварыў: «Вытворчасць мільёнаў людзей па загадзя падрыхтаваным плане са сродкамі машыннай буйной індустрыі — ніякага іншага базісу няма. І тут няма супадзення інтарэсаў пралетарыяту і сялян. Тут наступае цяжкі перыяд барацьбы — барацьбы з сялянствам» /ПЗТ, т. 40, с. 308/.

Яшчэ ў перыяд грамадзянскай вайны Ленін вучыў, што для выратавання 10 пралетарыяў трэба абабраць 60 сялян: «І мы гаворым, што калі 60 сялян маюць лішкі хлеба, а 10 рабочых галадаюць, то трэба гаварыць не пра «роўнасць» наогул і не пра «роўнасць людзей працы», а пра безумоўны абавязак 60-ці сялян падпарадкавацца рашэнню 10 рабочых і даць ім, хоць бы нават у пазыку даць, лішкі хлеба» /ЗТ у 10 тамах, т. 8, с. 546/. Пра якую пазыку тут можа ісці гаворка — няцяжка здагадацца.

Падпіраючыся такога роду аргументацыяй, правадыр рэвалюцыі з цвёрдай упэўненасцю мог заяўляць: «Пралетарыят гіганцкія ахвяры прынёс для ваенных задач, на якія давялося аддаць /!!! — **У. К.**/ дзесяткі мільёнаў сялян» /ПЗТ, т. 42, с. 32/. Вось аказваецца, як лёгка можна распарадзіцца лёсам дзесяткаў мільёнаў людзей без іх ведама і волі! А, можа, пра іх і турбавацца зусім няма патрэбы, бо гэта ўсяго толькі сяляне?

Калі б узяць на ўзбраенне ленінскую логіку, то чаму б не дапусціць, што можна ахвяраваць лёсам 60-ці пралетарыяў, каб зберагчы 10 прамыслоўцаў, прадпрымальных арганізатараў вытворчасці або living рознага роду творчых людзей? Не хапіла ў Леніна кругагляду, каб уявіць, што наконт падобных выкладак сказалі б самі сяляне.

Наогул каб больш свядомымі аказаліся працоўныя масы, то іх трэба было патрошку адстрэльваць. «Адзінства волі на вайне, — вучыў Ленін, — выражалася ў тым, што калі хто-небудзь свае ўласныя інтарэсы, інтарэсы свайго сяла, групы ставіў вышэй за агульныя інтарэсы, яго кляймілі шкурнікам, яго расстрэльвалі, і гэты расстрэл апраўдваўся маральным усведамленнем рабочага класа, што ён павінен ісці да перамогі. Пра гэтыя расстрэлы мы адкрыта гаварылі, мы гаварылі, што мы насілле не хаваем, таму што мы ўсведамляем, што са старога грамадства, не прымусіўшы адсталую частку пралетарыяту, мы выйсці не здолеем. /.../. Вазьміце 1918 год /.../, дзе я ўжо тады гаварыў пра неабходнасць прызнання дыктатарскіх паўнамоцтваў адной асобы з пункту гледжання правядзення савецкай улады. Усе фразы аб раўнапраўі — глупства /вздор/. Мы не на глебе паўнапраўя вядзем класавую барацьбу» /ПЗТ, т. 40, с. 308/.

Дык ці такімі ўжо выпадковымі аказаліся сталінскія рэпрэсіі? Іх непазбежнасць была прадвызначана ў ленінскай тэарэтычнай спадчыне. Так, яшчэ ў маі 1919 г. у прывітанні венгерскім рабочым Уладзімір Ільіч папярэджваў: «Знішчэнне класаў — справа доўгай, цяжкай, упартай **класавай барацьбы**, якая **пасля** звяржэння ўлады капіталу, **пасля** разбурэння буржуазнай дзяржавы, **пасля** ўстанаўлення дыктатуры пралетарыяту **н е з н і к а е** /як уяўляюць пашлякі старога сацыялізму і старой сацыял-дэмакратыі/, а толькі мяняе свае формы, становячыся ў многіх адносінах яшчэ больш бязлітаснай» /ЗТ у 10 тамах, т. 8, с. 557/.

Нязведаныя ўсё ж такі шляхі Гасподнія. А законы і зігзагі гісторыі надта ж дзіўныя. Але атрымліваецца так, што злачынства рана ці позна належным чынам ацэньваецца. Сёння, у 70-ю гадавіну з дня смерці Леніна, мы не можам забыць, што ён з'яўляецца галоўным віноўнікам крывавай братазабойчай грамадзянскай вайны, якая агнём прайшлася па ўсёй краіне, зламала і пакалечыла лёс мільёнаў і мільёнаў людзей. Створаная ім дзяржава на працягу дзесяцігоддзяў вяла жорсткую вайну супраць уласнага народа, зноў-такі знішчыўшы ці пакалечыўшы жыццё новых мільёнаў. Як бы мы сёння ні спрабавалі выкручвацца, але палітыка савецкай дзяржавы, прадвызначаная Леніным, вяла да сусветнай вайны.

На развалінах гітлерызму Германія на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў адрадзілася эканамічна і духоўна. А што будзе з нашчадкамі ленінскай спадчыны? Вось пытанне, якое паставіла перад намі гісторыя. А пакуль што пра наша становішча можна было б сказаць словамі Якуба Коласа з вядомай казкі: «На балоце стала цёмна. А брычка і паны ўсё глыбей у гразь лезуць». Толькі не пра паноў на гэты раз гаворка.

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

З пошты «ЛіМа»

# ШТО ТАКОЕ «КАРАМБОЛЬ»?

Гэта ж трэба да такога дадумацца, гэта ж трэба так умець, каб заняць тэлеэкран на 40 хвілін /і не раз/ і, прабачце, вярзці такое небяскрыўднае і небяспечнае глупства! Маю на ўвазе «Карамболь». Апошняя перадача /6.01.94 г./ з А. Паляткоўскім — гэта шэдэўр, больш таго — узор пазакультурнага існавання ў сферы духу і думкі. Больш за ўсё там чамусьці гаварылася пра гарэлку і п'янкі. І падавалася гэта як нешта, што павінна выклікаць захапленне і павагу, да чаго неадкладна трэба далучацца. Наколькі можна было зразумець, маскоўскі госць «Карамболя» надае гарэлцы вялікае значэнне і без яе жыццё для яго — не жыццё. Прынцыпова не магу ўстрымацца, каб не прывесці колькі думак пра алкагольную атруту некаторых славутых людзей усіх часоў і народаў. Вось яны: «П'янстваваць — практыкавацца ў шаленстве» /Піфагор/, «П'янства — добраахвотнае вар'яцтва» /Арыстоцель/, «П'яны чалавек — не чалавек, бо ён згубіў тое, што адрознівае чалавека ад скаціны, — розум» /Т. Пэн/. Завяршальным афарызмам на гэту тэму хай паслужаць словы Бібліі пра тых, хто зноў і зноў узыходзіць на сцяжыну п'янства: «Вяртаецца пёс на ваніты свае». Трэба заўважыць, што калі вядучы і госць «Карамболя» вялі гаворку пра п'янства ўвогуле і ў прыватнасці ў дачыненні да былога «взглядовца», то гаворка тая насіла гуллівы характар, са спробай выклікаць да сябе сімпатыі. А вось калі ўспомнілі Б. Ельцына, то тон адразу ж памяняўся. Ускосна на расійскага прэзідэнта тут жа павесілі ярлык п'яніцы, праўда, не клінічнага. Але і гэта выклікала ўсмешку задавальнення і разумення аўдыторыі. Думаецца, Беларускаму тэлебачанню, калі яно не можа абыходзіцца без такіх кульбітаў і пасажаў, лепш было б пагаварыць пра п'янства далёка не апошніх і не перадапошніх кіраўнікоў нашай дзяржавы, чым, прабачце, сунуць свой нос у чужы агарод. Але TV незалежнай Беларусі чамусьці вельмі востра настройвае вуха на пэўныя колы ў Маскве, па чым можна рабіць сякія-такія прагнозы адносна палітычнага клімату ў расійскай сталіцы.

Бянтэжыць у названай перадачы і размова пра шапку і аўтамабіль Паляткоўскага і, вядома, асабліва пра тое, што ён выхаванец маскоўскае шпаны. Ні вышэй ні ніжэй — такога ж узроўню былі і пытанні аўдыторыі да залётнага тэледружбана. Сумна і яшчэ раз сумна. Пагадзіцца ж з тым, што маскоўскі тэлежурналіст — зорка ў журналістыцы, ніяк нельга. У свой час, калі «процесс пошел», Паляткоўскі і іншыя пры нашай усеагульнай некваліфікаванасці, баязлівасці і забітасці выглядалі, скажам шчыра, нядрэнна. Але ж капіталу тых часоў на ўсё жыццё не хопіць. Сёння, калі ідуць ужо другія працэсы, патрэбна больш эрудыцыі, аналізу, інтэлігентнасці, духоўнасці, мужнасці — адным словам, высокай культуры. Паўстае пытанне: а дзе ўзяць людзей з такімі якасцямі? Адказваем. Зірніце ва ўсе чатыры бакі, паклічце іх — і яны з'явяцца. І з самой Беларусі, і з замежжа — бліжняга і дальняга. Возьмем, к прыкладу, такіх цікавых і абаяльных /ва ўсіх адносінах/ людзей, якія могуць быць узорам і ў інтэлектуальным жыцці, і ў паўсядзённым побыце, як гісторыкі браты Грыцкевічы, былы дысідэнт, змагар за правы чалавека Міхал Кукабака, паэт і вучоны І. Ласкоў, паэт А. Разанаў, празаік У. Арлоў, зноў жа гісторыкі Г. Сагановіч, А. Краўцэвіч, артысты Ю. Авяр'янаў і В. Манаеў, эсэісты Ю. Залоска і В. Акудовіч, журналісты А. Груздзіловіч і С. Плыткевіч, мастакі М. Карпук, А. Марачкін, А. Цыркуноў, эканамісты і фінансісты У. Кулажанка, У. Новік, Ю. Беленькі, грамадскія дзеячы Я. Лугін і В. Вячорка, кампазітары Г. Шэмет і В. Войцік, дзеячы музычнай культуры і салісты-выканаўцы В. Скорабагатаў і А. Ярмоленка, вядучая радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» А. Радкевіч, дыктар тэлебачання М. Тачыцкая, рабочы М. Сасноўскі і многія, многія іншыя. І маладзейшыя і старэйшыя. Іх, прыгожых і разумных, шырока адукаваных, вясёлых і жартаўлівых таксама, на Беларусі многа. Дык каму ж, калі не ім, свядомым патрыётам Беларусі, і выступаць на нацыянальным тэлебачанні?!

Безумоўна, можна і неабходна запрашаць і з іншых дзяржаў людзей /і не толькі беларусаў/, але не такіх, ад каго даведваешся, што Беларусь менавіта таму Беларусь, што сюды з Масквы белую косць у свой час высылалі /такую «дзіч» і бязглуздзіцу ў папярэднім «Карамболі» нам выдаваў сам І. Смактуноўскі/.

А ў заключэнне нагадаем сабе і іншым, што карамболь — гэта прыём у більярднай гульні, калі вы сваім шарам наносіце ўдар па некалькіх чужых шарах. Калі ж мець на ўвазе, што тэлеперадача «Карамболь» ёсць гульня выключна інтэлектуальная, то гуляць тут трэба артыстычна і, вядома, з розумам. Каб не трапляць кіямі ў лузы і не раздзіраць сукно на більярдным стале-полі. І галоўнае, каб шары не былі пустымі. Вядома, гэта метафара. Такім чынам, у добры шлях. Магчымасці ў нас ёсць. Трэба проба? Калі ласка!

**Яўген ГУЧОК**

# КАНФЛІКТ ПА-ЛІДСКУ

***Усхваляваны аповяд супрацоўніка «Лідскай газеты» Пятра Рыгоравіча Макарэвіча, які зайшоў у «ЛіМ» «за падтрымкай», па першым уражанні ўкладваўся ў досыць звычайную па цяперашнім часе схему — журналіста зацкавалі за яго спробы выкрыць злоўжыванні ўлад, сказаць людзям слова праўды.***

***Але там, у Лідзе, схема гэтая пачала на вачах разбурацца, губляць свае абрысы; станавілася ўсё больш відавочна, што канфлікт, у арбіту якога, акрамя П. Макарэвіча, было ўцягнута яшчэ нямала людзей, вымагае неадназначных ацэнак. І, разам з тым, у гэтай, прама скажам, не вельмі прыгожай гісторыі, як у люстэрку, адбіліся пэўныя адметнасці нашага посткамуністычнага грамадства з яго супярэчнасцямі і маральнымі выдаткамі.***

Сам П. Макарэвіч храналагічна адносіць пачатак канфлікту да 9 красавіка 1992 года, калі ён, загадчык аддзела радыёінфармацыі «Лідскай газеты», даў у эфір інтэрв'ю з рэдактарам новай у Лідзе незалежнай грамадска-палітычнай газеты «Народная трыбуна» Ф. Кардашом. Апошні, расказаўшы слухачам пра сваё выданне, падкрэсліў, у прыватнасці, што ў адрозненне ад «Лідскай газеты», якая вызначаецца бяззубасцю і баіцца закранаць вострыя пытанні, яна, «Народная трыбуна», вывядзе на чыстую ваду мясцовае карумпаванае чыноўніцтва, што пабудавала для сябе шмат шыкоўных катэджаў у пасёлку, ахрышчаным лідчанамі «Царскім сялом».

Праз дзве гадзіны пасля перадачы /інтэрв'ю давалася ў эфір у магнітафонным запісе/ у рэдакцыі па ініцыятыве выконваючага тады абавязкі рэдактара У. Васько склікаецца агульны сход калектыву з наступнай абвесткай дня: «Аб неэтычных учынках П. Макарэвіча». На сходзе раптам з'яўляюцца намеснік старшыні Лідскага гарадскога Савета народных дэпутатаў А. Рамановіч і намеснік старшыні Лідскага райсавета А. Дубоўскі, якія курыруюць мясцовыя сродкі масавай інфармацыі.

Іх з'яўленне на рэдакцыйным сходзе, прысвечаным персанальнай справе аднаго з супрацоўнікаў, мне асабіста, калі даследаваў гэтую гісторыю, падалося спачатку досыць загадкавым. Кінуць усе справы і прымчаць у рэдакцыю, каб пабыць на такім сходзе?..

Пётр Рыгоравіч даў мне праслухаць большую частку магнітнага запісу таго сходу. Што і казаць, калегі Макарэвіча не скупіліся на нядобрыя словы па яго адрасе. І галоўнае абвінавачванне — здрадзіў газеце ў цяжкі для яе час /меліся на ўвазе матэрыяльна-фінансавыя цяжкасці, якія напаткалі выданне пасля таго, як перастаў існаваць гарком і райком КПБ, органам якіх яно з'яўлялася/. За «здраду» журналісты палічылі менавіта арганізаванае Макарэвічам інтэрв'ю з Ф. Кардашом /інтэрв'ю на сходзе спецыяльна пракруцілі/ і асабліва тое месца ў ім, дзе гаварылася пра «Царскае сяло», пра якое, быццам бы, «Лідская газета» ніколі не пісала. Аказваецца, на самай справе, аднойчы пісала...

Слухаючы ўвесь гэты вэрхал, я не мог пазбавіцца адчування, што людзі на сходзе нібы пазбягалі гаварыць пра сапраўдныя матывы, якія імі рухалі. І, відаць, меў рацыю П. Макарэвіч, калі палічыў тое інтэрв'ю толькі зачэпкай для расправы з ім за вострыя матэрыялы, за падтрымку дэмакратычных суполак Лідчыны, наогул, за свае палітычныя погляды.

Зрэшты, хацелі яны таго ці не, але кропкі над «і» паставілі ў сваіх прамовах на сходзе «высокія госці». Каб ні ў кога не ўзнікала сумненняў, хто сапраўдны гаспадар газеты, А. Дубоўскі, напрыклад, спаслаўся на класічную формулу: «Хто плаціць, той і заказвае музыку». /Уяўленне аб тым, як гучыць гэтая музыка, вы зможаце атрымаць, пагартаўшы «Лідскую газету»/. Што тычыць А. Рамановіча, дык ён пусціўся, кажучы па-руску, «во все тяжкие», пачаўшы разглядаць грамадскую пазіцыю, занятую Макарэвічам і Кардашом, з пункту гледжання маралі, назваўшы абодвух пярэваратнямі, бо раней яны былі камуністамі, а цяпер спавядаюць іншыя ідэі.

Трэба зазначыць, што модным сёння слоўцам пярэваратні /па-руску — перевертыши/ любіць кляйміць сваіх палітычных супраціўнікаў былая партнаменклатура. Але ж дзесяцігоддзі ў нетрах самой КПСС сярод значнай часткі яе членаў выспявала разуменне пагібельнасці шляху, навязанага краіне камуністычным ладам. Толькі не хацела прызнаваць гэтага з-за сваёй інтэлектуальнай абмежаванасці, а, хутчэй, з-за боязі пазбавіцца цёплых месцаў, аблашчаная сістэмай партакратыя. Што тычыцца яе ідэйнай чысціні, дык асабіста я за многія гады членства ў КПСС, дальбог, не сустракаў камуністаў-фанатыкаў /хоць, дапускаю, што некалі, пры самым нараджэнні партыі, яны і былі/. Затое крывадушна спекулюючых на ідэі, умельцаў-спецыялістаў па камуністычных лозунгах і адозвах — такіх было процьма.

Мне могуць запярэчыць, што кампартыя налічвала ў сваіх шэрагах мільёны членаў. Але ж, у асноўным гэта былі людзі, пазбаўленыя свабоды выбару, людзі, па сутнасці, заняволеныя, аблытаныя па руках і нагах павуціннем сістэмы. Дык хіба яны заслугоўваюць сёння папроку ў тым, што, нарэшце, парваўшы гэтае павуцінне, зрабілі свой выбар на карысць дэмакратычных, агульначалавечых свабод? Гэта яны — пярэваратні?

І, разам з тым, я далёкі ад думкі ідэалізаваць усіх, хто заяўляе сябе дэмакратам. Некалі пра чалавека, западозранага ў парушэнні нейкага пастулата камунізму, гаварылі, што ён яшчэ не пазбавіўся «радзімых плямаў» капіталізму. У пару сёння гаварыць пра «радзімыя плямы» сацыялізму, таталітарызму, якія выціснуць з сябе ой як не лёгка. Гэта і нецярпімасць да іншай думкі, і самалюбства, і помслівасць, і падазронасць, і высокая самаацэнка ўласнай асобы, і многія іншыя не вельмі прыгожыя якасці натуры.

Буду шчыры да канца — не спадабаліся мне і многія ўчынкі героя гэтых нататак Пятра Рыгоравіча Макарэвіча, хоць, у цэлым, я падзяляю яго палітычныя погляды. Але, у рэшце рэшт, погляды — гэта ўсё жыццё. Існуюць яшчэ і такія паняцці, як прыстойнасць, памяркоўнасць, пачуццё меры. Калі П. Макарэвіч з гонарам расказваў, як ён настояў на тым сходзе, каб яму далі магчымасць запісаць яго на магнітную стужку, я адчуў сябе ніякавата. Канфлікты, вядома, надараюцца, бадай, у кожным калектыве, але даўно заўважана: як толькі нехта пачынае публічна высвятляць адносіны, патрабуючы пры гэтым абавязковага пратакаліравання «разборкі» — чакай вялікай звады, ад якой потым доўга прыйдзецца адмывацца. Праўда, у дадзеным выпадку ініцыятарам разбіральніцтва быў не Макарэвіч, але ўсё роўна ад гэтага яго: «Я зрабіў магнітафонны запіс, каб ніхто потым не мог адвярцецца ад сваіх слоў», рабілася не па сабе.

Або вось яшчэ. Адразу пасля рэдакцыйнага сходу, дзе яго «разбіралі», Пётр Рыгоравіч перадае па «сваім» радыё, а потым публікуе ў «Народнай трыбуне» ўласны артыкул пад назвай «Савецкая рэакцыя на «Царскае сяло», дзе дае дыхту «Лідскай газеце», у якой працуе, за ганенне на яго, нежаданне друкаваць ягоныя вострыя матэрыялы. Адным словам, апеляваў са сваімі праблемамі мала не да ўсяго насельніцтва Лідчыны, пасвяціўшы яго ва ўнутрырэдакцыйныя справы.

Праўда, на такім жа «ўзроўні» дзейнічае і рэдакцыя «Лідскай газеты», якая 18 красавіка таго ж года змяшчае на першай старонцы рэдакцыйны артыкул «Праўда пра радыёжурналіста П. Макарэвіча». Я прачытаў гэты, даруйце, опус і скажу толькі, што нічога, акрамя сораму за лідскіх калег, не адчуў. Тое, што можна сказаць непрыемнаму табе чалавеку сам-насам, яны вынеслі на старонкі газеты на пацеху ўсім чытачам.

П. Макарэвіч у даўгу не застаецца і пачынае на старонках «Народнай трыбуны» абмяркоўваць матэрыялы «Лідскай газеты». Абмяркоўваць у здзеклівым тоне, з асабістымі выпадамі супраць аўтараў, называючы іх невукамі, няздольнымі журналістамі і да т. п.

Тым часам Пётр Рыгоравіч за публікацыю артыкула «Праўда пра радыёжурналіста П. Макарэвіча» падае ў суд іскавую заяву на рэдакцыю за нанясенне ўрону яго гонару і годнасці і іск, па тых жа матывах, на А. Рамановіча за яго «пярэваратня».

Далей падзеі разгортваюцца наступным чынам. Лідскі гарадскі суд у задавальненні іскаў П. Макарэвічу адмаўляе, а Гродзенскі абласны суд, куды ён звярнуўся з касацыйнай скаргай, пакідае рашэнне суда першай інстанцыі ў сіле.

Пётр Рыгоравіч даходзіць да Вярхоўнага суда...

Уся гэтая калатня працягваецца каля года, пакуль 12 сакавіка П. Макарэвіч не быў звольнены «па скарачэнні штатаў» — класічнай фармуліроўцы для пазбаўлення ад непажаданага работніка. Беспрацоўны журналіст ідзе пратаптанай ужо сцежкай у суд, але там яму ў аднаўленні на працу адмаўляюць. Шле скаргу ў абласны суд, дзе рашэнне гарадскога суда адмяняюць і накіроўваюць у Ліду на новы разгляд. Справу бярэ да сябе старшыня гарадскога народнага суда С. Каваленка і, пасля разгляду, аднаўляе Пятра Рыгоравіча на працы ў рэдакцыі з выплатай яму грашовай кампенсацыі за вымушаны «адпачынак». Праўда, тут яму даюць ужо новую пасаду — загадчыка аддзела пісьмаў.

А ўжо зусім нядаўна прыйшоў адказ Макарэвічу з Вярхоўнага суда, у якім паведамляецца, што яго іск да «Лідскай газеты» задаволены ўсё-такі быць не можа, затое іск да А. Рамановіча павінен быць разгледжаны першай судовай інстанцыяй нанава, бо вярхоўныя суддзі палічылі, што адрасаванае яму слова «пярэварацень» сапраўды зневажае гонар і годнасць заявіцеля...

Я быў на тым суддзе ў Лідзе. Вяла грамадзянскі працэс, вяла вельмі дакладна і прафесійна, старшыня гарадскога суда Святлана Пятроўна Каваленка. Шчыра кажучы, я было падумаў, што і адказчык А. Рамановіч і яго сведкі — супрацоўнікі «Лідскай газеты», будуць аспрэчваць сам факт знявагі П. Макарэвіча, маўляў, сплыло з таго сходу шмат часу і цяжка ўсё ўспомніць. Я памыліўся, усе ў адзін голас пацвердзілі, што сапраўды слова «пярэварацень» па адрасе Макарэвіча прагучала, але яны не разумеюць, які тут быў узведзены на істца паклёп, калі ён сапраўды раней быў камуністам, і нават, у маладосці, нейкі час працаваў у КДБ. Што тычыць самога слова — «пярэварацень», альбо «перевертыш» /як яно прагучала на сходзе/, дык яны не ўспрымаюць гэта як абразу.

І я паверыў, што мусіць і сапраўды не ўспрымаюць. З-за спрошчанага, прымітыўнага ўяўлення аб самакаштоўнасці чалавечага «я», гонары і годнасці асобы. Не аблаялі ж чалавека па-мацернаму, чаго ён крыўдзіцца?..

Не ведаю, ці думала пра ўсё гэта суддзя. Хутчэй кіравалася толькі законам. Таму і вынес суд рашэнне — іск П. Макарэвіча да А. Рамановіча задаволіць.

Канфлікт вычарпаны? Ад'язджаў я з Ліды, не будучы ў гэтым упэўнены...

**Міхась ЗАМСКІ**

**P. S. Артыкул быў ужо падрыхтаваны да друку, калі з Ліды прыйшла «навіна» — П. Макарэвіч зноў звольнены з рэдакцыі па «скарачэнні штатаў».**

## Наш каляндар

1 студзеня — 75 гадоў з дня заснавання Першай беларускай гімназіі ў Вільні.

1 студзеня — 75 гадоў з дня нараджэння Міхаіла ХАНІНАВА /1919—1981/, калмыцкага паэта, перакладчыка беларускай літаратуры. У 1942—1944 гадах партызаніў на тэрыторыі Беларусі.

1 студзеня — 280 гадоў з дня нараджэння пачынальніка літоўскай мастацкай літаратуры Крысціёніса ДАНЕЛАЙЦІСА /1714—1780/, паэму якога «Чатыры пары года» на беларускую мову пераклаў А. Зарыцкі.

4 студзеня — 265 гадоў з дня нараджэння публіцыста, паэта, перакладчыка, грамадскага і палітычнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, заснавальніка Шчорсаўскай бібліятэкі /Навагрудскі раён/ Іяхіма ХРАПТОВІЧА /1729—1812/.

8 студзеня — 70 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра ДАДЗІЁМАВА /1924—1983/. Друкавацца пачаў у 1938 годзе. Аўтар шэрагу дакументальных кніг, рамана «Над Нёманам» /1957/.

9 студзеня — 75 гадоў з дня нараджэння Олеў Йыгі /1919—1989/, эстонскага літаратуразнаўцы, перакладчыка беларускай літаратуры. Пераўвасобіў па-эстонску зборнік апавяданняў Я. Брыля «Сірочы хлеб» /1961/ і аповесць «Апошняя сустрэча» /1961/, «Трэцяя ракета» В. Быкава /1963/, раманы І. Мележа «Людзі на балоце» /1964/, «Подых навальніцы» /1968/, трылогію Я. Коласа «На ростанях» /1977/ і іншыя творы беларускіх пісьменнікаў.

10 студзеня — 75 гадоў з дня нараджэння Аркадзя ГЕЙНЭ /1919—1942/. У 1939 годзе выйшаў зборнік паэзіі «Шчаслівая зорка».

11 студзеня — 90 гадоў з дня нараджэння Янкі ШУТОВІЧА /1904—1973/, публіцыста, грамадскага, культурнага дзеяча, у 1935—1939 гадах выдавец віленскага часопіса «Калоссе».

16 студзеня — 165 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра СПАСОВІЧА /1829—1906/, публіцыста, літаратуразнаўцы, грамадскага дзеяча.

17 студзеня — 110 гадоў з дня нараджэння Сяргея ГАРАДЗЕЦКАГА, рускага паэта, перакладчыка беларускай літаратуры. У пачатку трыццатых гадоў пазнаёміўся з Я. Коласам і Я. Купалам. Дзякуючы яму па-руску загучалі «Бандароўна»,»Барысаў», «Над ракою Арэсай» Я. Купалы, некаторыя яго вершы. Выйшлі асобнымі кнігамі «Новая зямля» Я. Коласа /1934, скарочаны варыянт/, «Рыбакова хата» /пераклад сумесна з Б. Ірыніным і П. Сямыніным/, зборнік «Голас зямлі» /1942/.

17 студзеня — 90 гадоў з дня нараджэння Алеся ЯКІМОВІЧА /1904—1979/. Друкавацца пачаў у 1923 годзе. Аўтар шматлікіх кніг для дзяцей. У 1978—1979 гадах выйшаў Збор твораў у трох тамах. Асобнымі выданнямі ў апрацоўцы А. Якімовіча выходзілі беларускія народныя казкі. За аповесці «Адкуль ліха на свеце», «Канец сервітуту», «Кастусь Каліноўскі» прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР.

23 студзеня — 105 гадоў з дня нараджэння рускага і беларускага літаратуразнаўцы, даследчыка старажытнай беларускай літаратуры Міхаіла ДАБРЫНІНА /1889—1955/.

24 студзеня — 110 гадоў з дня нараджэння венгерскага паэта Андара ГАБАРА «1884—1953/. Пераклаў вершы Я. Купалы «Заўсёды наперад», «Там», «Выйдзі...», «А хто там ідзе?», «На нашым полі» і іншыя. Напісаў артыкул «Янка Купала, беларускі паэт». Апавяданне А. Габара «Мысліцелі» на беларускую мову пераклаў У. Шахавец.

24 студзеня — 85 гадоў з дня нараджэння паэта П. ГРАНІТА /1909—1980/.

25 студзеня — 190 гадоў з дня нараджэння Антона ДЫНЦА /1804—1855/, польскага паэта, перакладчыка, мемуарыста, сябра А. Міцкевіча, Я. Чачота, Т. Зана.

25 студзеня — 125 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта, фалькларыста, рэвалюцыянера Адама ГУРЫНОВІЧА /1869—1894/.

29 студзеня — 110 гадоў з дня нараджэння публіцыста, літаратурнага крытыка, грамадскага і культурнага дзеяча Антона ЛУЦКЕВІЧА /1884—1942/.

***На пачатку 70-х гадоў лёс зблізіў мяне з Пальчэўскім /каб памагчы мне ўладкавацца ў Мінску: ён прапісаў маю сям'ю на сваёй жылплошчы/. Зразумела, я не жыў у ласкавых гаспадароў, але ці часта заходзіў да іх, ці, бывала, сустракаўся з Алесем Восіпавічам у парку альбо ў батанічным садзе. Пакрысе-памалу ён пачаў расказваць пра сваё маленства, пра лагерную адысею. Паміж намі міжволі ўзнік прыкладна такі дыялог:***

***— Алесь Восіпавіч, ды пра гэта трэба пісаць!!! — я, молада і горача.***

***— А хто гэта надрукуе? — ён, высокі, амаль белавалосы і прыгожы, з сумнай усмешкаю.***

***— Пішыце хоць для шуфляды!***

***— А ты, дружа, гарантуеш, што не будзе новага вобыску і арышту?***

***Я змаўкаў...***

***Калі А. Пальчэўскі ў 1979 годзе памёр, мы з яго жонкай, Тамарай Рыгораўнай Цулукідзе, праглядвалі ягоны архіў. Знайшлі тое-сёе неапублікаванае /апавяданні змясцілі ў «Маладосці» і «Бярозцы», другую частку аповесці «Сцежкі» — у «Полымі»/, а вось успаміны «пра тое» /на сённяшні дзень, дык зусім бяскрыўдныя/ не змаглі надрукаваць тады нідзе.***

***Канечне, цяпер Алесь Пальчэўскі пра той час напісаў бы інакш, але і сёння ў гэтых успамінах наш чытач, найперш маладзейшы, знойдзе невядомыя яму штрышкі — яны, у прыватнасці, пашыраць уяўленне пра такую каларытную постаць у нашай літаратуры, як Уладзімір Дубоўка.***

***Няхай гэтая публікацыя будзе паважным знакам да светлай памяці тых, хто зведаў за любоў да беларускага слова цяжкія пакуты, але ўсё роўна гэтай любові не страціў.***

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ

# ПРА ДУБОЎКУ

Кнігу можна параўнаць з багатым сховішчам думак, крупінак мудрасці, рассыпаных па яе старонках, падзей, расказаных выдатнымі, бывалымі людзьмі. Толькі гэта сховішча розніцца ад сховішчаў матэрыяльных каштоўнасцей, замкнутымі вялізнымі замкамі, якія да таго ж часта яшчэ ахоўваюцца людзьмі. Кніжны скарб чалавецтва адкрыты для ўсіх. Выбірай любую кнігу па свайму густу і чытай колькі табе захочацца, перажывай разам з аўтарам чужое гора, радуйся поспехам добрых спраў яго герояў, набывай для сябе жыццёвы вопыт.

Вось чаму я люблю часам спыніцца перад сваімі зашклёнымі паліцамі, абвесці іх вачыма, узяць адну з кніг, што найбольш уразіла твой зрок, і правесці гадзінку, другую з ёю сам-насам. А калі пра творцу гэтага сховішча ты яшчэ ведаеш добрае што-небудзь, або знаў яго асабіста, тады і вобраз яго паўстане перад табою. І сам не заўважыш, як пяройдзеш на гутарку.

Так было і на гэты раз са мною. Зрок мой спыніўся на кнізе выбраных твораў Уладзіміра Дубоўкі. З паасобнымі творамі гэтага цудоўнага паэта я пазнаёміўся яшчэ ў 1923 годзе, будучы ў вёсцы, праз газету «Савецкая Беларусь», што выдавалася тады на беларускай мове. Як жа мне хацелася зірнуць на аўтара хоць адным вокам! Сам я ў той час дасылаў допісы з вясковага жыцця ў гэту газету. І маё жаданне збылося. Увосень 1925 года давялося ўбачыць яго ў рэдакцыі «Савецкай Беларусі».

Я ўжо быў к таму часу студэнтам першага курса Рабфака і, прыехаўшы з вёскі, прынёс допіс у газету. Пакой быў вялікі: у ім стаяла пяць сталоў. За трыма, з раскладзенымі на іх паперамі, нікога не было, а за двума — сядзелі: у кутку — сакратар рэдакцыі Пашковіч, а трохі воддаль — загадчык літаратурна-мастацкага аддзела Алесь Дудар. Пашковіч сказаў мне трошкі пачакаць, пакуль вернецца патрэбны чалавек. Я прысеў каля трэцяга стала. Неўзабаве зайшоў высокі мужчына з яснымі вачыма, адкрытым паглядам, у добрым чыстым гарнітуры і размашыстымі крокамі накіраваўся да сакратара рэдакцыі. Прывітаўся з ім. Затым падаў руку Дудару. Зірнуўшы на мяне, спытаў у Дудара:

— Хто гэта?

Той па звычцы памаргаў вачыма і адказаў:

— Гэта ў карэспандэнцкі аддзел.

— Значыць наш брат, пішучы... — падаў мне руку і, выразна сказаўшы: — Дубоўка. — Тут жа звярнуўся да Пашковіча і Дудара: — Прынёс вам новы верш. Учора напісаў, — і падаў лісток Дудару.

Я здзіўлена паглядзеў на гэтага элегантнага чалавека і падумаў: «Дык вось той чараўнік слова, якога я так люблю па творчасці!»

Дудар прачытаў верш і, перадаючы Пашковічу, выказаў сваю думку:

— Мне падабаецца.

Дубоўка злёгку ўсміхнуўся, ад чаго твар яго яшчэ больш прасвятлеў. Хто ведае, можа, гэта быў першы чытач. А кожнаму творцу важна пачуць пахвалу, хоць невялікую.

Пашковіч прачытаў і таксама даў добры водгук.

— Але надрукаваць не можам.

— Чаму? — здзівіўся аўтар і крышку пачырванеў у твары.

— Вы называеце верш «Апошняя песня». А я не хачу, каб гэта была апошняя. Я жадаю, каб вы яшчэ шмат напісалі такіх цудоўных вершаў для сваіх удзячных чытачоў, да ліку якіх належу і я.

Гаварыў Пашковіч сур'ёзна і цяжка было разабраць: жартуе ён ці сапраўды не збіраецца друкаваць.

— Што вы! — назваў Дубоўка па імю і бацьку сакратара рэдакцыі. — Я і напішу яшчэ, і прынясу іх вам.

— А як жа вы тады апраўдаецеся перад чытачом? — усміхнуўся той. — У якім становішчы будзе рэдакцыя? Як мы выкруцімся?

— Выкруцімся. Усё будзе добра: і аўтару, і рэдакцыі. Мы назавём яго разам з вамі «Новая песня», а ў дужках паяснім /пасля апошняй/.

— Тады прыйдзецца, мусіць, надрукаваць. Як думаеш, Алесь? — звярнуўся Пашковіч да Дудара. — Возьмем пад увагу абяцанне аўтара?

Неўзабаве верш быў надрукаваны ў газеце «Савецкая Беларусь», наколькі мне памятаецца, пад назвай «Апошняя песня». У далейшых выданнях ён змяшчаўся пад назвай першага радка «І было увосень...» Я тут жа яго вывучыў: пранёс у сваёй памяці праз гады, чым пазней здзівіў аўтара.

Было так: мінула дваццаць чатыры гады і мы зноў сустрэліся, на гэты раз у незвычайных абставінах. Адобвум нам давялося пахадзіць гэтыя гады па сцежках, ходжаных і няходжаных, пазнаёміцца з многімі людзьмі — добрымі і благімі, і нарэшце дарогі нашы перакрыжаваліся ўвосень 1949 года. Я трапіў у так званыя «паўторнікі», а ён у «трэцічнікі», калі ёсць такое слова. Многа тады з неабдымнага Савецкага Саюза звозілі нашага брата, «рабоў Берыя», як гаварылі самі канваіры пра нас у лагеры, у вялізную Сібір на дажыванне свайго веку.

Я прыехаў трохі раней у вялікае сібірскае сяло Рбан Краснаярскага краю і, можна сказаць, лічыў сябе ўжо тубыльцам, пазнаёміўся з некаторымі настаўнікамі, сам спадзяваўся ўладкавацца выкладчыкам мовы і літаратуры ў вячэрняй школе сельскай моладзі з першага лістапада.

І вось аднаго надвячорка настаўніца, што жыла па суседстве са мною, дзе я здымаў яшчэ з адным настаўнікам з-пад Куйбышава пакой у гаспадыні, кажа:

— Аляксандр Восіпавіч, у почацкім заезджым доме знаходзіцца ваш беларускі пісьменнік.

— Хто, Еўдакія Іванаўна? — спытаў я з нецярплівасцю.

— Не памятаю добра прозвішча. Ведаю толькі, што з гучным канчаткам на «ка».

Я прыгадаў ёй усіх пісьменнікаў з гучнымі канчаткамі ў прозвішчах... Усё было не тое. Хто ж такі?

— А імя як яго — не казаў?

— Уладзімір Мікалаевіч, ён таксама нейкі час настаўнічаў.

— Дубоўка! — усклікнуў я раптоўна, не верачы яшчэ сам сабе, што натрапіў на след.

— Але, — кіўнула настаўніца галавою. — Ён вечарам прыйдзе да нас піць малако зноў. І я пазнаёмлю вас, прыходзьце...

Я сказаў, што нас у дваццаць пятым годзе знаёмілі ўжо і няма патрэбы чакаць таго вечара. Заезджы дом леспрамгаса * быў недалёка ад дома, у якім жыла настаўніца, і мы тут жа пайшлі туды. Гаспадыня несла ў дом з дрывотні дровы і Еўдакія Іванаўна папрасіла паклікаць Уладзіміра Мікалаевіча.

Неўзабаве на ганак выйшаў трошкі памажнелы, але такі ж стройны, як я бачыў яго раней, больш за дваццаць гадоў назад, з пасівелай барадой і бакамі чалавек. З ледзь прыкметнай усмешкай ён акінуў нас яснымі добрымі вачыма і, прывітаўшыся, пачаў спускацца ўніз па прыступках.

Еўдакія Іванаўна падала яму руку і кіўнула на мяне:

— Той самы Аляксандр Восіпавіч, пра якога казала вам учора. Будзьце знаёмы, хоць ён казаў, што вас пазнаёмілі ўжо раней.

— Дзе? Калі? — падаў мне руку Уладзімір Мікалаевіч, пільна ўзіраючыся ў твар.

Я назваў сваё прозвішча, напомніў пра жартаўлівую гаворку Пашковіча і напомніў два першыя радкі з верша:

І было увосень, калі стрыглі поле,
Калі пасцілалі дываны з лістоў...

Уладзімір Мікалаевіч ажывіўся: відаць, успамін пра далёкае даўняе навеяў радаснае, і ён здзіўлена ўсклікнуў:

— Вы памятаеце нават пачатак таго верша?

— Я ведаю ўвесь яго на памяць.

— Аўтару прыемна гэта чуць... Цяпер прыгадваю, вы сядзелі каля другога стала, што быў побач са сталом, за якім сядзеў Дудар... Вы даўно з Мінска? Як ён там?

— Адбудоўваецца. Устае з руін... А вы хіба не былі ў ім пасля вайны?

— Не. Ад трыццатага года мая нага не ступала на яго брук.

Настаўніца, развітаўшыся, запрасіла Дубоўку прыходзіць піць малако і пайшла дахаты, а мы прыселі на прыступцы ганка і павялі размову пра Беларусь. Яго цікавіла ўсё: як выглядае горад, хто жывы застаўся пасля такой мітрэнгі з пісьменнікаў, як жывуць нашы калгаснікі, як склаўся мой лёс.

Гаварылі мы паціху, аднак Уладзімір Мікалаевіч часта азіраўся на сенечныя дзверы і ледзь хто скрыпнуў хатнімі, ён адразу ж змаўкаў, даючы знак і мне рабіць тое ж. Потым ён падняўся з прыступкі і параіў:

— Давайце пройдземся трохі па вашай Берагавой, — і мы пайшлі вуліцай.

— Ад лішняга вока і вуха далей, — сказаў ён, калі мы выйшлі ў поле, хоць мне здавалася, што нічога благога мы не гаварылі. Напалоханы трохразовым наведваннем «казённага дома», у яго выпрацаваўся страх ад падазронасці, што нехта зможа перакруціць пачутае, зразумець іначай падслуханае.

Тады ён расказаў мне, як трапіў у Грузію. Перад выхадам з лагера знаёмы грузін даў яму адрас свайго саўгаса і параіў ехаць туды.

— Людзі ў нас добрыя, прымуць на работу, мае бацькі дадуць прытулак на першы час. Жонка туды прыедзе. Будзеш жыць, вінаград есці, віно піць, чакаць майго прыезду.

---

** Заезджыя дамы ў раённым сяле мелі многія дальнія калгасы, у тым ліку і леспрамгас. Гаспадары самі жылі ў іх і здавалі 1—2 пакоі на год за ўмоўленую плату, дзе маглі спыняцца калгаснікі, старшыні, бываючы ў раёне па справах. /Заўвага А. Пальчэўскага/.*

І праўда, прынялі яго з вялікай ахвотай на пасаду бухгалтара. І людзі паважалі і начальства цаніла, але пільнае вока ўбачыла яго і там. Мала пабыў ён у сонечным цёплым краі: аднаго дня прыехалі па яго душу.

Пакуль ішла перадача бухгалтарскіх дакументаў, яго спадарожнік цярпліва сядзеў на крэсле і чакаў. Заходзілі людзі, пачуўшы пра падзею з Дубоўкам, і кожны з іх стараўся закінуць добрае слова пра свайго бухгалтара то па-грузінску, то па-руску.

— Кацо, за што бярэш харошага чалавека? Ён на нашых вачах жыў тут і нічога нікому дрэннага не зрабіў.

Канваір апраўдваўся:

— Я выпаўняю загад. Я што, я нічога не маю супраць яго.

Закончылі перадачу надвячоркам. Уладзімір Мікалаевіч і канваір выйшлі з канторы на двор, дзе стаяла грамадка з некалькіх мужчын. Яны запынілі іх і запрасілі зайсці ў клуб на развітанне. Канваір заўпарціўся. Мужчыны загаманілі: хто па-грузінску, хто па-руску, умольваючы яго паслухаць. Нарэшце канваір здаўся.

— Зойдзем на гадзінку.

У клубе чакала іх вялікае мужчынскае застолле. Канваір пасадзіў свайго падапечнага побач і пачаліся «провады» ў цярністую дарогу сардэчнага чалавека-бухгалтара саўгаса. Дырэктар першы падняў тост, у якім шчыра дзякаваў за сумленную службу і напомніў, калі ўсё высветліцца к добраму, вяртацца назад, для яго заўсёды знойдзецца месца тут.

Выпілі па чарцы віна, закусілі.

Падняўся з лавы сівы дзядок, былы саўгаскі рабочы сказаць слова. Гэты звярнуўся да канваіра.

— Сынок, слухай маю просьбу. Вазьмі мяне, калі табе надта патрэбен чалавек, а яго пакінь тут. Два разы і так ён каштаваў ужо турэмны хлеб...

— Батоно, — падняўся канваір з месца, прылажыў руку да грудзей, — паважаны, не магу я выпаўніць вашу просьбу. Загад яго прывезці... Што я скажу начальству?..

— Скажы, што ўсе мы паручыліся, — яму падказаў маладзейшы з мужчын у выцвілай гімнасцёрцы і звярнуўся да застолля: — Што скажаце, мужчыны, згодны?

— Згодны, згодны.

— Апошні раз кажу: не магу я пераступіць загаду, — зноў устаў з месца канваір, — самога пасадзяць, а ў мяне жонка, дзеці...

Некалі была прымаўка: «Голас народа — голас божы». Ды забылася цяперашнімі людзьмі яна. А хто і помніў, дык голасу не меў.

За поўнач працягваліся «провады». Потым канваір памякчэў. Пайшлі на кватэру да Дубоўкі. Прыкарнулі трохі і ранічкай паехалі ў раённы цэнтр.

Пад'язджаючы да будынка, дзе знаходзіўся аддзел МГБ, канваір пажадаў Дубоўку ўсяго добрага і падвесяліў:

— Не перажывайце, дарагі, не вы першы, не вы апошні.

І праўда. Адкуль толькі ні прывозілі нашага брата пасля ўказа ад 8.III.1948 г., падпісанага В. Молатавым, на засяленне сібірскіх прастораў!..

Назаўтра пасля нашай сустрэчы леспрамгасаўская грузавая аўтамашына забрала адабраных вярбоўшчыкам, у тым ліку і Дубоўку, і павезла ў Почат на расцярэбліванне тайгі. Туды ж некалькімі месяцамі раней вербавалі і мяне.

— Падыходзіць нам, здаровы мужчык, — даў мне вярбоўшчык ацэнку, як толькі я зайшоў па чарзе ў пакой, дзе сядзела трое чалавек: начальнік райаддзела МГБ, сакратар і вярбоўшчык.

— А на якую работу вы мяне вярбуеце? — спытаў я ў вярбоўшчыка.

— Лесаруба.

— Не пайду я на такую работу. Выпілаваў я ўжо свае тысячы кубаметраў у Кержанскіх лясах.

У гаворку ўступіў начальнік.

— Пальчэўскі, у мяне другой работы няма. А вас трэба ўладкаваць. Разам з вашым фармулярам прыйшоў загад абавязкова ўстроіць вас на працу.

— Я ўладкуюся сам, — адказаў я ўпэўнена, бо пакуль дайшла да мяне чарга, я наведаў райана і мне там паабяцалі ўладкаваць настаўнікам у Рбанскую вячэрнюю школу сельскай моладзі, а летам папрасілі зрабіць невялікі рамонт дзіцячага сада, школы.

— Знайдзіце сабе ў дапамогу чалавека.

І я знайшоў. Усё лета працавалі. Удваіх з настаўнікам з ... вобласці. *

І я застаўся ў раённым цэнтры. Я пашкадаваў, што не сустрэліся раней, каб льга было, канечне, параіць яму, дамагацца, каб пакінулі тут, але Уладзімір Мікалаевіч пакруціў толькі галавой.

— А я і не прасіўся б.

— Чаму? Усё ж цэнтр, тры разы на тыдзень кіно ў клубе. Добрая бібліятэка, ёсць што пачытаць.

— Я аддаўся на волю лёсу. Куды вынесе, там і іду... Дарэчы, кажаце, добрая бібліятэка, і вы ходзіце браць кнігі? Раю: толькі палітычных не бярыце.

— Чаму, Уладзімір Мікалаевіч? — здзівіўся я.

— Майце на ўвазе, мы на ўліку, і бібліятэчныя фармуляры будуць правяраць, чым хто цікавіцца.

— Ну і што, няхай цікавяцца.

— Не мне вам, Алесь Восіпавіч, гаварыць. Як знаеце...

Усе мы, хто адведаў і камеры-адзіночкі і людныя /на некалькі сот чалавек/ нары, былі напалоханыя, недаверлівыя да людзей, асцярожныя, вядома, але не ў такой ступені. Я ведаў /па размовах/, што перад першым арыштам быў прыстаўлены да мяне адзін з супрацоўнікаў выдавецтва, перад другім — настаўнік пачатковых класаў. Але каб не браць кніжак з бібліятэкі — там будуць цікавіцца, што я чытаю, — гэта ўжо было занадта.

У Почаце Дубоўка спачатку ўладкаваўся заўхозам у сярэднюю школу. Прыязджаў нешта разы два па кнігі і сшыткі ў райана. Я працаваў дырэктарам вячэрняй школы сельскай моладзі, і кожны раз ён наведваў мяне. Затым праз гады два прыязджаў на медыцынскую камісію ў райздраў, каб не хадзіць на лесапавал /яму было ўжо 53 гады/, як не дазволілі працаваць у школе заўхозам. Быў нягласны загад: усіх ссыльных выкарыстоўваць на фізічнай працы. Па гэтай прычыне не дазволілі і мне працаваць настаўнікам, пайшоў у брыгаду цесляроў, якая існавала пры райспажыўсаюзе. Будавалі магазіны, склады, сілосныя вежы, канюшні.

А апошняя з сібірскіх сустрэч адбылася ў лістападзе 1954 г., калі Уладзімір Мікалаевіч прыязджаў атрымліваць пашпарт. Ён зайшоў да мяне зноў. К гэтаму часу я ўжо быў жанаты з былой заслужанай артысткай грузінскага тэатра імя Руставелі Тамарай Рыгораўнай Цулукідзе, сасланай сюды як і я на вечнае пасяленне. Мы купілі за прысланыя ёй роднымі грошы старую хату, рубленую яшчэ за царом, адрамантавалі як маглі і жылі, радуючыся свайму кутку і на заспакаенне райаддзелу МГБ, што мы сталі тубыльцамі /ім давалася ўстаноўка, як толькі мага, прымацоўваць да пэўнага месца/.

Я пазнаёміў Уладзіміра Мікалаевіча з жонкай. Яны хутка знайшлі агульную мову пра тэатр, пра літаратуру. Я ёй шмат разоў гаварыў пра маё знаёмства з Дубоўкам. Яна добра вывучыла на беларускай мове яго верш «О Беларусь, мая шыпшына» і прачытала нам. Гэта асабліва ўсхвалявала Уладзіміра Мікалаевіча. Ён падняўся з табурэткі, пацiснуў руку, пацалаваў яе.

— Вы вывучылі па-беларуску. Гэта такая прыемнасць для мяне. Скажу сваёй Марыйцы, няхай са мною парадуецца. Грузінская артыстка чытала аўтару верш на яго мове. Ды дзе, у Сібіры!..

Хутка была падрыхтавана вячэра. Я паставіў паўлітра.

— Што гэта? З якой прычыны? — пацiснуў плячыма.

Я кіўнуў жонцы, каб сказала яна.

— Вы трапілі, Уладзімір Мікалаевіч, на вялікую ўрачыстасць. Мы з Алесем едзем на гэтым тыдні ў Беларусь, па расказах Алеся, у вашу цудоўную краіну. Сёння прадалі сваю хату і едзем шукаць новую з новым жыццём. Зараз прыйдзе новая гаспадыня, будзем піць барыш.

— Жадаю вам абаім шчасця на новым месцы. Вам спадабаецца Беларусь, Тамара Рыгораўна. Цудоўная краіна, цудоўныя людзі, па дабраце не ўступяць грузінам. Вам не расказваў Алесь Восіпавіч, як праводзілі мяне ў дарогу вашы саўгаснікі разам з дырэктарам? Толькі грузіны так могуць.

— Гаварыў...

— З такой прыветлівасцю і пачцівасцю сустрэнуць вас і нашы беларусы, можаце быць упэўнены...

Прыйшла новая гаспадыня, таксама прынесла барыш, паставіла на стол.

— Нашто вам было браць, цётка. Хопіць і нашага барыша.

— Чым я горшая? — толькі і змагла адказаць яна.

Мы пазнаёмілі яе з Дубоўкам і селі ўсе за стол.

Першы тост папрасілі сказаць нашага госця. Ён пажадаў новай гаспадыні здароўя, шчасця на новым месцы, мець заўсёды шчырых сяброў, як мелі ранейшыя гаспадары:

— Каб ніколі не пуставалі сцены гэтай хаты ад добрых людзей!

Новая гаспадыня падзякавала Уладзіміру Мікалаевічу за добрыя пажаданні і звярнулася да нас:

— А вам, дарагія, шчаслівай дарогі і людскай долі на новым месцы, дзе вы знойдзеце сабе прыпынак.

Я падняў чарку за дарагога госця і пажадаў хуткай сустрэчы ў Мінску.

Тамара мая не ўтрымалася, слёзы накруціліся на яе вачах.

— Што з табою? — занепакоіўся я. — Чула, што гаварыў Уладзімір Мікалаевіч? Нас душэўна сустрэнуць на маёй радзіме.

— Хаты свае шкода. Вытынкоўвала сваімі рукамі, прыбрала ўсё да ладу, як магла. А там што чакае нас?

Мяне самога палохала невядомасць. Як яно будзе: поўнай рэабілітацыі яшчэ я не меў. Было толькі паведамленне з пракуратуры СССР аб адмене паўторнага прысуду — ссылкі Асобага Савяшчання пры міністры НГБ у 1949 г. і пратэст на першы прысуд спецкалегіі Вярхоўнага Суда БССР у 1934 г. Адмену гэтага прысуду меў права Вярхоўны Суд СССР. Разгляд справы павінен быў разглядацца ў парадку чаргі ў сакавіку 1955 г. У Тамары на яе скаргу яшчэ не было ніякага адказу з ваеннага трыбунала. Як яно будзе і калі, цяжка было сказаць. Ехалі ў надзеі на чуласць добрых людзей, на іх справядлівасць. Мне верылася ў лепшае: ледаход пачаўся, і на гэты раз шчасце не павінна абмінуць нас.

Пад канец развітальнай вячэры мы пажадалі Уладзіміру Мікалаевічу хуткай сустрэчы ў Мінску.

— Хацелася б пабачыць яшчэ родны край... Але калі не рэабілітуюць, то я туды не яздок. А з рэабілітацыяй невядома як павернецца справа. Маўчаць пакуль.

— Запазніліся трохі з падачай скаргі. Пакуль дойдзе чарга з разборам. Я трохі раней паслаў, і то праз пяць *... толькі адказалі.

— У вас іншая справа. Вы маеце толькі дзве судзімасці, а ў мяне іх тры...

Чым можна суцешыць чалавека? Я мог толькі параіць чакаць лепшага, верыць у справядлівасць...

Назаўтра мы развіталіся, пажадалі адзін аднаму ўсяго добрага і хуткай сустрэчы на радзіме. Праз тры дні я з Тамарай Рыгораўнай выехаў з Рбана ў Магілёў да мае сястры, куды ў снежні 1954 года прыйшла мая рэабілітацыя. Я тут жа напісаў пра сваю радасць Уладзіміру Мікалаевічу. Ён павіншаваў, а аб сабе ні слова. Мяне цікавіла, што чуваць з разглядам яго справы, а ён і не ўспомніў пра яе. «Значыць, нічога радаснага не атрымаў яшчэ», — падумаў я.

Праз некаторы час я паслаў з Мінска ўжо два пісьмы. Адказу не было. Трэцяе выслаў заказным — і зноў кароткі адказ з Почата: «Лісты Вашы атрымаў, дзякую. Не адказваў, бо не хачу рабіць Вам непрыемнасцей. З маёй рэабілітацыяй нічога не чуваць».

Усё тая ж боязь, напалоханасць не давалі яму ўпэўненасці, спакою. Баяўся нават не нашкодзіць мне сваёю перапіскаю: рэабілітаваны трымае пісьмовую сувязь з нерэабілітаваным.

Сустрэліся мы нешта праз гады тры ці чатыры ў Мінску на кватэры ў Максіма Лужаніна. Успамінамі пра той вечар, калі пілі барыш за прададзеную хату, і ён мне здаўся на гэты раз значна павесялелым.

Потым часта сустракаліся ў рэдакцыі: ён прыносіў у «Вясёлку» друкаваць свае творы, дзе ён расказваў прыгоды з свайго жыцця.

Аднак колькі ні запрашаў я і ад сябе, і ад Тамары Рыгораўны наведаць нас дома, ён кожны раз, дзякуючы, адмаўляўся, спасылаючыся, што самі яны пакуль што не маюць сталага месца запрасіць пасля нас да сябе. Усё тая ж боязь...

У кастрычніку 1975 года, вяртаючыся з Дома творчасці Перадзелкіна, я пазваніў з кватэры Канстанцыі Буйла Уладзіміру Мікалаевічу, хацелася даведацца пра яго здароўе, і пачуў нярадасны адказ: ён скардзіўся пра агульнае недамаганне і боль у нагах. На маё запытанне, калі збіраецца наведаць Мінск, Уладзімір Мікалаевіч з жалем у голасе адказаў:

— Наўрад, браце, ці змагу я ўжо быць у ім. У магазін ледзь выходжу ды і то з адрасам на картачцы паперы ў кішэні. Гэта на ўсякі выпадак, калі здарыцца што непрадбачанае ў невялікай адлучцы з дому, каб адразу маглі знайсці.

Вярнуўшыся ў Мінск, я выслаў яму свой двухтомнік. У адказе была шчырая падзяка і выказваўся жаль, што, бадай, ён не зможа ўжо аддзякаваць мне сваёй новай кніжкай.

Я верыў у лепшае. А 20 сакавіка 1976 года прыйшла трывожная вестка з Масквы. Перастала біцца сэрца душэўнага, бязвіннага чалавека, прабыўшага больш за дваццаць пяць год у апале.

*20—31. VIII. 1978 г.*

**Публікацыя Г. Далідовіча.**

* *Вобласць аўтарам не названа /Г. Д/.*

* *У арыгінале няма яснейшага ўдакладнення /Г. Д./.*

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне намесніку дырэктара кнігарні пісьменніка Галіне Дзям'янаўне Лаба ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю мужа.**

**Рэдакцыя часопіса «Маладосць» выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела паэзіі Віктару Гардзею ў сувязі з заўчаснай смерцю брата.**




*Заснавальнікі:*

***Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь***

***Выходзіць з 1932 года***

*Газету рэдагавалі*
*І.Гурскі (1935-41)*
*А.Куляшоў (1945-46)*
*М.Горцаў (1947-49)*
*П.Кавалёў (1949-50)*
*В.Вітка (1951-57)*
*М.Ткачоў (1957-59)*
*Я.Шарахоўскі (1959-61)*
*Н.Пашкевіч (1961-69)*
*Л.Прокша (1969-72)*
*Х.Жычка (1972-76)*
*А.Асіпенка (1976-80)*
*А.Жук (1980-86)*
*А.Вярцінскі (1986-90)*

*Галоўны рэдактар*
**Мікола ГІЛЬ**

*РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:*
*Святлана БЕРАСЦЕНЬ,*
*Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара),*
*Юрась ЗАЛОСКА,*
*Міхась ЗАМСКІ,*
*Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,*
*Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара),*
*Юрась СВІРКА*

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
***220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.***

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*прыёмная рэдакцыі 332-461*
*наменікі галоўнага рэдактара 332-525, 331-985*
*аддзелы:*
*публіцыстыкі 332-525*
*пісьмаў і грамадскай думкі 331-985*
*літаратурнага жыцця 332-462*
*крытыкі і бібліяграфіі 332-204*
*паэзіі і прозы 332-204*
*музыкі 332-153*
*тэатра, кіно і тэлебачання 332-153*
*выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў 332-462*
*навін 332-462*
*мастацкага афармлення 332-204*
*фотакарэспандэнт 332-462*
*бухгалтэрыя 268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдыкцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

*Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах*

*Друкарня "Беларускі Дом друку"*

*Індэкс 63856. Наклад 17.000.*
*Нумар падпісаны 20.01.1994 г.*

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

